

Купалле ў Нарве ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Купальская ноч ➔8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 30 (3089) Год LX Беласток, 26 ліпеня 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Дзецюкі



# СВАБОДНАЯ БЕЛАРУСЬ НА СЦЭНЕ Ў ГАРАДКУ



Navi



Лявон Вольскі



**Штогод у сярэдзіне ліпеня ва ўрочышчы Барык ля Гарадка гучыць беларускі рок. «Басовішчу» — фестывалю музыкі маладой Беларусі споўнілася 25 гадоў. Шмат памянялася за гэты час, аднак нязменнай засталася ідэя імкнення да свабоды праз добрую рок-музыку. «Басовішча» гэта адзіны (і магчыма самы вялікі) фестываль беларускага рока, які праходзіць па-за межамі Беларусі. Прывітанне, «Басовішча»!**





Pomidor/off

На працягу 25 гадоў «Басовішча» змяняліся паралельна са зменай сітуацыі ў Беларусі. Пакуль фестываль стаў формай бунту, быў адлюстраваннем маладога беларускага пакалення таго часу. Як згадваюць ветэраны «Басовішча», першы яго выпуск больш нагадваў сямейны пікнік, чым рок-фестываль. З пятніцы па нядзелю цэлыя сем'і з Гарадка і ваколіц бяседавалі на мерапрыемстве, седзячы на пледах і слухаючы «сваёй музыкі». Побач іх з бел-чырвона-белымі сцягамі гуляла нацыянальна свядомая моладзь. Для спадара Х. запамяталіся маладыя людзі з Беларусі, якіх называлі «сцяганосцамі». Яны ў арганізаваных групах вярталіся з угодкаў грунвальдскай бітвы. На малой сцэне гучала беларуская музыка двух жанраў: побач рокменаў выступалі барды. Такія гурты як «Крама», «Мроя» (пазнейшы «Н.Р.М.») перапляталіся з выступамі Віктара Шалкевіча ці Алеся Камоцкага. Ужо на другім фестывалі пачаў дамінаваць беларускі рок, каб пазней перарадзіцца ў месца свабодных поглядаў, выказваных праз музыку і тысячы свядомых сваіх правоў людзей. Варта прыгадаць, што ў той час паміж Польшчай і Беларуссю не было віз. Моладзь магла свабодна перамяшчацца між нашымі краінамі. Сёння прыезд гасцей з Беларусі намнога больш складаны. Каб фанам рока з Беларусі патрапіць на «Басовішча», трэба было пераадолець цэлы шэраг працэдур.

— Мне падабаецца тое, што Беларускае аб'яднанне студэнтаў арганізує без каштоўных віз мерапрыемства для беларускіх аматараў музыкі. Можа ў нейкім сэнсе гэта палітычны фестываль. Маю надзею, што гэта зможа ў нейкай ступені паўплываць на беларускае грамадства.

працяг ☞ 2

1 працяг

## XXVI БАСОВІШЧА, 17-18 ліпеня 2015

Мару аб гэтым, — сказаў Віталік з Мінска, які менавіта пакарыстаўся бясплатнай візай на «Басовішча».

— Фестываль старэе, але арганізатары маладзеюць, — кажа Барбара Пякарская, арганізатарка першых «Басовішчаў», — і гэта найлепшае, што магло гэтаму фестывалю здарыцца. Вядома, што



■ Мурал на жыллёвым блоку пры Барыку і яго аўтарка Марта Сілу-Адамская з Артурам Стахецкім

музыка, якой мы слухалі, была іншая, але яна папросту тады такая была.

З часам, калі настаў Аляксандр Лукашэнка і паказаў свае антыбеларускія кіпцюры, «Басовішча» стала поўнасцю бунтам супраць рэжыму.

— Мяне прывяло сюды тое, што я менавіта ўжо пяць гадоў не была на «Басовішчы». Я засумавала за атмасферай, якая тут ёсць. За пачуццём вольнай Беларусі. Хаця ў Польшчы жыву здаўна, але мне не хапае пачуцця беларускасці, — сказала Маша.

Адным з выступоўцаў на сёлетнім Фестывалі музыкі маладой Беларусі «Басовішча» быў мінскі гурт «Monkey Bite». Хлопцы з гурта на гэтым музычным мерапрыемстве пабывалі неаднойчы, аднак на сцэне ў Барыку выступілі ўпершыню. На думку ўдзельніка гурту Сяржука, «Басовішча» на працягу мінулых гадоў мяняла сваё аблічча.

— Першыя разы гэта было такое лаў, такая беларушчына, чаго, на жаль, на Беларусі тады не было на той момант. Потым здавалася, што ўжо фармат змяняўся, што ўжо гэта не тое. Аднак хвала арганізатарам, «Басы» не зніклі, не памерлі. «Басы» — сімвал беларускай музыкі, вольнай Беларусі.

У адрозненні ад юбілейнага мінулагодняга 25 фестывалю, сёлета на сцэну ў Барыку вярнуўся конкурс. Спаборнічала чатыры беларускія гурты «BY CRY», «EXEGUTOR», «TonqiXod» ды «Navi», якога песні гучаць у эфіры Беларускага Радыё Рацыя. Перамаглі гурты «TonqiXod», а таксама «Navi». Многія лічаць, што «Басовішча» гэта фестываль бунту і супраціву, аднак на думку сябры журы, музыка ды шматгадовага ўдзельніка «Басовішча» Юркі Асенніка, не адлюстроўвалі гэтага канкурсанты:

— Музычна ў параўнанні з тым, што было гадоў таму дзесяць, ці пятнаццаць — нашмат лепш. Усе маюць сучасныя прылады, ужо Еўропа. Але няма чагосьці захапляючага ў тэкстах песень. Няма такога лаааў!

Тым не менш, як штогод на фестываль «Басовішча» прыязджаюць заўзятары беларускага рока з Польшчы і Беларусі. Сёлета з'явіліся нават матацыклісты з Мінска, горда везучы праз усю Беларусь і Беласточчыну бел-чырвона-белы сцяг.

— На матацыклах прыехалі сюды на канцэрт «BRUTTA». Мы за імі ездзім па ўсёй краіне. Нават былі на Украіне на канцэрце ў горадзе Ужгарад, — кажа мінская матацыклістка.

На «Басовішчы» гулялі два пакаленні беларусаў. Тыя, якім пад пяцьдзясят, і тыя, якім каля дваццаці. Першыя «Басовішчы» арганізавала між іншым Барбара Пякарская. Цяпер усім гэтым займаецца яе дачка Ганна.

— Мы верым у самую ідэю фестывалю, мы сюды ездзілі, будучы малымі дзецьмі. І проста для нас гэта была мара, каб знайсціся па другім баку сцэны, каб гаварыць з гуртамі, каб з імі сустракацца. Гэта вялікі падарунак ад лёсу, таму што амаль нікому ў такія маладыя гады не здараецца рабіць так файнай імпрэзы з такімі вялікімі гуртамі.

На працягу 25 гадоў на Фестывалі музыкі маладой Беларусі «Басовішча» выступіла больш за сто гуртоў, у асноўным з Беларусі. Дзякуючы «Басовішчу» сваю кар'еру распачалі такія вядомыя гурты, як «AKUTE», «Без Білета», «БН» ці «Сцяна». Для многіх, ужо вядомых гуртоў, выступ на «Басовішчы» з'яўляўся прэстыжнай справай. Такія прозвішчы, як Лявон Вольскі, Аляксандр Памідораў ці Міхалок з неіснуючага ўжо гурта «Ляпіс Трубяцкі», многім асацыююцца з «Басовішчам». Іх можна было пабачыць на сцэне ў Барыку і сёлета — на 26-тым фестывалі «Басовішча».

Уршуля ШУБЗДА



# Каго няма і што ёсць

Ізноў пра суседзяў. Крыху перафразуючы старадаўнюю мудрасць, можна сказаць: „Божа, выбаві мяне ад добрых суседзяў, а са сваімі ворагамі я разбяруся сам". Няма мяжы вынаходлівасці вытачнасці расейскай прапаганды. Днямі яе рупары дагаварыліся да таго, што аказваецца гэта Масковія перамагла ў Грунвальдскай бітве 1410 года. А нас — ні Вялікага Княства Літоўскага, ні Беларусі — адпаведна і канешне не было ў гісторыі. Нас — беларусаў — для „братняга" народа няма. А калі мы ёсць — то нас трэба знішчыць. Чым яны ўжо пяцьсот гадоў са значным поспехам і займаюцца.

Дзіўная гэта дзяржава — маскоўская Арда з яе векавымі традыцыямі хлусні і самападману. Ужо нібыта ўсё пра яе ведаеш з гісторыі, а не можаш не здзіўляцца. Вось найноўшы прыклад. Афіцыйныя колы Расеі цвёрда заяўляюць, што год таму малайзійскі „Боінг" над тэрыторыяй Украіны быў збіты ўкраінскімі вайскоўцамі. І адначасна гэтак жа катэгарычна заяўляюць, што яны супраць міжнароднага трыбуналу ў расследаванні гэтай справы. Ну проста раздваенне, ці „расстраенне" адразу ў абедзвюх галовах расейскага арла.

Няма межаў і здзіўлення і расейскай нядбайнасці, карупцыі і абыякавасці да лёсу і жыцця сваіх суайчыннікаў. Гэта ж трэба, каб цэлыя будынкі абвальваліся, як сталася з гэтай няшчаснай казармай, дзе загінулі дзясяткі маладых салдат-дэсантнікаў. І гэтая трагедыя толькі чарговая статыстыка для крамлёўскіх уладароў. Жыццё чалавека ў Расейскай імперыі і яе спадкаемцу СССР ніколі не каштавала нічога — ні на вайне, ні ў мірным жыцці. Цяпер жа асабліва не каштуе. Дык гэта звычайная казарма! А як яны пабудуюць у Беларусі Астравецкую атамную станцыю? Адкінем тут усе геапалітычныя і вайсковыя разлікі і зірнем на гэтую станцыю толькі з гледзішча гаспадаркі і будаўніцтва — хіба могуць расейцы хоць што-небудзь трывалае збудаваць! Хіба Крэмль адзін стаіць грунтоўна стагоддзямі, дык то ж нашы гомельскія дойліды пастараліся. Не ўмелі папросту рабіць паіншаму.

А вось і камедыйная гісторыя. Жыхар нейкага Пракоп'еўска, што ў Кемераўскай вобласці, у адзіночку разбурыў помнік Леніну. Чалавек спрабаваў зрабіць сэлфі з правадыром сусветнага пралетарыяту, павіс у яго на руцэ, але Ільіч не вытрымаў і разваліўся. Пасля гэтага падпіты маладзён спрабаваў яшчэ, нібыта ў дзіцячай гульні, злажыць раскіданы помнік назад. Увесь гэты вобраз вельмі нагадвае цяперашнюю ідэалогію крамлёўскіх кіраўнікоў. Яны цэлы час імкнуцца сабраць рассыпаныя кавалкі ідэалогіі Івана Грознага ды Леніна-Сталіна, цэлы час выступаюць супраць усёй Еўропы і Амерыкі. Прытым пазіцыянуюць сябе як цэнтр прагрэсіўнага свету, фактычна адмаўляюцца ад развіцця. Расею проста раз'ядаюць бюракратызацыя і ксенафобія, нацыянальныя супярэчнасці. Узмацняецца вертыкаль улады, якая не лічыцца ні з кім і ні з чым. Гісторыкі параўноўваюць гэты час з цемрашальскім часам кіравання цара Мікалая Першага ў 1825-1855 гадах, якое бясслаўна скончылася паразай Расейскай імперыі ў Крымскай вайне (а зараз ізноў Крым!). Скончылася тады ўсё зменай рэжыму на больш ліберальны аляксандраўскі. Аляксандр II ужо проста мусіў праводзіць пэўныя рэформы, бо дзяржава ў заганлі ў дэградацыю і нават тупік. Але зараз, здаецца, ніякае рэфармаванне Расейскай намінальна федэрацыі, а фактычна імперыі — ужо немагчымае. Занадта глыбокія супярэчнасці і трэшчыны, якія фармаваліся стагоддзямі. Колькі не называй пясок гранітам, колькі не паўтарай мантры пра „великую Россию" і яе гістарычную місію збавення ўсяго свету ад усяго на свеце. Гэтая імперыя проста будзе канаць і развальвацца на мноства кавалкаў, як той пракоп'еўскі помнік Леніну. У гісторыі не бывае паіншаму

Ну а што мы — беларусы? Мы мусім даказаць толькі сабе — ці мы ёсць, ці нас няма. І тады нічога нікому, ніякім суседзям, больш даводзіць будзе непатрэбна.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



Вачыма еўрапейца

# II Усходні эканамічны кангрэс

Больш за тысячу гасцей з Польшчы і між іншым з Беларусі, Літвы, Украіны, Малдовы і Азербайджана маюць абмяркоўваць найбольш важныя пытанні для Усходняй Еўропы ў час другога Усходняга эканамічнага кангрэса (УЭК) у Беластоку. Гэта найбуйнейшае мерапрыемства, прысвечанае перспектывам эканамічнага развіцця таксама гэтай часткі Польшчы. Як і год таму, у двухдзённай серыі дэбатаў, сустрэч і спадарожных ім мерапрыемстваў прымуць удзел палітыкі, эксперты, прадстаўнікі бізнесу, навукі і эканомікі. І хоць Кангрэс будзе праходзіць аж 24-25 верасня, ужо 16 ліпеня яго арганізатары падчас прэс-канферэнцыі гаварылі пра яго асновы.

Войцех Кусьпік, ініцыятар і арганізатар Кангрэса, старшыня Групы Польскага таварыства па падтрымцы прадпрымальніцтва адзначыў: «Прыметнік «усходні» ў назве разглядаем як адносіны Польшчы з яе ўсходнімі суседзямі, а таксама развіццё ўсходняй Польшчы. Падчас кангрэса ў гэтым годзе будзем канцэнтравацца на ключавых для будучыні і для эканамічнага развіцця ўсходняй Польшчы тэмах, не прапускаючы ніякай вобласці. Пасля Першага кангрэса аказалася, што Беласток гэта вельмі прывабнае месца, прытым так блізка да Варшавы. Інвестыцыі ажыццяўляюцца ў вядомых месцах».

Падляшскі ваявода Анджэй Мэер адзначыў: «УЭК — адна з самых важных, калі не самая важная эканамічная падзея ў нашым рэгіёне, таксама дзякуючы намаганням мясцовых самаўрадаў на Падляшшы. Найбольш важнымі для развіцця з'яўляюцца інавацыі, якія ствараюць новыя працоўныя месцы. Мы спадзяемся, што вонкавыя прадпрымальнікі ўбачаць наш патэнцыял. Наша месцазнаходжанне на мяжы з Расіяй, Літвой і Беларуссю таксама з'яўляецца магчымасцю для трансгранічнага эканамічнага супрацоўніцтва. Кангрэс з'яўляецца выдатнай магчымасцю для прасоўвання ў краіне і ў свеце».

Падляшскі маршалак Мечыслаў Башко адзначыў: «Варта арганізаваць кангрэс у нас, таму што пасля першага пра Беласток у Польшчы стала гучна. Мы робім стаўку на развіццё прадпрымальніцтва, энергетыкі, аўтамабільнай і чыгуначнай інфраструктуры. Паслы Казахстана і Арменіі таксама зацікаўлены ў прывядзенні сюды прадпрымальнікаў».

Прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі падкрэсліў: «Калі казаць УЭК, маем на ўвазе сустрэчу. Яна накіравана на ўмацаванне нашага эканамічнага патэнцыялу і прасоўванне нашых прадпрымальнікаў і ўсталяванне кантактаў. Яго дэвіз: «Партнёрства для развіцця. Польшча — Еўропа — Усход». Беласток мае вялікі патэнцыял, але невядомы шырэйшай польскай і замежнай грамадзе».

У рамках вераснёвага Кангрэса мае адбыцца трыццаць тэматычных сесій. Як і раней, тэматыка павінна ахопліваць як пытанні геапалітычных дэтэрмінант эканамічнага развіцця ва Усходняй Еўропе, так і пытанні бяспекі, міжнароднага і трансгранічнага супрацоўніцтва ды важнасці буйных інфраструктурных інвестыцый, а таксама дэталёвы аналіз важных галін эканомікі — энергетыкі, аграпрамысловага рынку, медыцынскіх паслуг, гандлю, турызму і гасцініц. У рамках другога УЭК, як і ў мінулым годзе, будзе абвешчаны топ-спіс камунальных інвестыцый пяці ваяводстваў усходняй Польшчы і ўпершыню адмысловым капітулам будуць абраны лепшыя працадаўцы ў гэтай частцы нашай краіны.

У ходзе прэс-канферэнцыі я папрасіў старшыню Кусьпіка, каб пералічыў дзве-тры змены, якія былі зробленыя на цэнтральным узроўні пад уплывам шматлікіх заяў, якія былі сфармуляваны падчас апошняга УЭК (падрабязна аб Кангрэсе мы пісалі ў мінулым годзе). Атрымаў я трохі ўнікліва адказ: «Асноўныя пытанні, узнятыя ў ходзе леташняга УЭК, потым сталі тэмамі грамадскай дыскусіі. Сёлетні УЭК будзе магчымасцю, каб сказаць «праваяраю».

Пры нагодзе дадаў: «Кангрэс з'яўляецца магчымасцю знаёмства кантрагентаў аднаго з адным і, магчыма, інспірацыяй для новых інвестыцыйных праектаў».

Бюджэт усяго УЭК складае 1 200 000 злотых. Пераважная большасць гэтых грошай ідзе ад так званых камерцыйных крыніц. З бюджэту Беластока на гэтыя мэты выдалі 247 000 злотых. Самаўрадавыя ўлады Падляшскага ваяводства сваіх грошай на арганізацыю кангрэса не выдалі. З фінансава-рэкламнага пункту гледжання Беластока і падляшскага рэгіёна, але і самога арганізатара важнае тое, што пасля першага УЭК у польскіх і замежных СМІ з'явілася каля паўтары тысячы публікацый, рэкламны эквівалент якіх складае 4 млн. злотых.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Ізноў «Купалле» каля Нарвы



**«Сенакос каля Нарвы. Купалле... вяртанне да карэнняў...» — з такім лозунгам 11 ліпеня каля Нарвы і аднайменнай ракі прайшло беларускае культурнае мерапрыемства, якое спалучала традыцыю і сучаснасць. Такім чынам адбылося аднаўленне «Купалля», якое ў другой палове дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя ладзіў у гэтым месцы Звяз беларускай моладзі.**

Непадалёк ад ракі Нарвы прайшлі конкурс на лепшага касца, з выкарыстаннем традыцыйных кос, і конкурс старой фатаграфіі «Сенакос каля Нарвы». Мерапрыемству спадарожнічалі майстар-класы, напрыклад, па пляценні вянкоў з кветак. Працаваў кірмаш рукадзелля і экалагічных прадуктаў харчавання. Ноччу гучалі купальскія песні, па рацэ плылі купальскія вянкі, сабраныя гасцявалі каля вогнішчаў. Хлопцы прабавалі знайсці папараць-кветку.

— «Купалле», арганізаванае раней Звязам беларускай моладзі, мне вельмі падабалася. Мы слухалі добрую маладзёжную музыку і гулялі ў вялікай кампаніі. Цяпер маёй марай было аднавіць гэтае мерапрыемства, што ўдалося зрабіць з дапамогай Ігара Лукашука, Звязу «Шчыты» і Польскага таварыства аховы птушак, якое займаецца не толькі іх ахоўвай, але таксама абкошваннем надрэчных лугоў. Мы рашылі вярнуцца да каранёў і аднавіць «Купалле» ў такім выглядзе, у якім яно было ў мінулым, з народнымі фальклорнымі песнямі, фолькам і рокам. Хаця мерапрыемства ў асноўным накіраванае да маладых асоб, то мы яго так арганізавалі, каб было яно цікавым і для маладых сем'яў з дзеткамі, і для старэйшых асоб. У нас няма размоў аб палітыцы, мы робім стаўку на добры адпачынак. Польскае таварыства аховы птушак выйшла з прапановай арганізаваць спаборніцтва па ручной касьбе. Гэтае спаборніцтва зараз адбываецца, — сказала Агата Смактуновіч, дырэктар Нарваўскага асяродка культуры, які разам са Звязам у карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» і беластоцкім аддзяленнем Польскага таварыства аховы птушак арганізаваў мерапрыемства.

Покі музычныя калектывы сталі выступаць на сцэне, «Купалле» распачалося каля самой ракі Нарвы ў якасці беларускага пікніка. Далей ад ракі праходзіла спаборніцтва па касьбе травы. Удзельнікаў спаборніцтва прыцягвалі вартасныя ўзнагароды, падрыхтаваныя ПТАП. Трэба было як найхутчэй выкасіць аднолькавыя ўчасткі травы, у якой раней маглі быць гнёзды птушак. Удала і хутка выкасілі свае ўчасткі войт Нарваўскай гміны Андрэй Пляскові і дырэктар Школьна-Прадшкольнага комплексу ў Нарве Юры Астапчук.

— У мяне ёсць механічная тэхніка для абкошвання панадворка. Але я арэшак і прыгажэйшую траву падкошваю традыцыйнай касой, на корм, — заявіў войт Андрэй Пляскові. — Касілася мне добра. Станоўча ацэньваю ідэю спаборніцтва па ручной касьбе. Аднаўляецца традыцыя, спрычыняемся да захоўвання гнёздаў птушак і добра гуляем. Ідэя аднаўлення «Купалля» таксама вельмі добрая, бо ёсць магчымасць паслухаць беларускую музыку і адпачыць на прыродзе каля прыгожай ракі. Дзеткі і моладзь маюць магчымасць займацца падчас майстар-класаў, а дарослыя — купіць рукадзелле і экалагічнае харчаванне.

Побач палаткі Польскага таварыства аховы птушак прэзентаваліся лепшыя шырокафарматныя здымкі — плён Конкурсу старой фатаграфіі «Сенакос каля Нарвы», на якіх паказана праца з касой і граблямі ў руках. Маладых дзяўчат зацікавілі майстар-класы па пляценні вянкоў. Працаўніцы Інстытута бесперапыннай адукацыі «Efis» з Беластока вучылі дзяўчат выконваць купальскія вянкі.

— Мастацтва дапасоўвання да сябе кветак называецца фларыстыкай. Мы вучым як сплесці вянок з кветак. Купальскі вянок павінен быць выкананы з лугавых кветак і быць моцна каляровым. Мы таксама не забываем так зрабіць вянкі, каб яны маглі плысці па вадзе, — заявіла працаўніца Інстытута «Efis» Іаанна Тыліцкая.

— Можа нейкі хлопец скочыць у ваду, каб вылавіць мой вянок, — сказала Аляксандра, выпускніца Бельскага белліцэя, якая пляла прыгожы вянок.

Вышываныя ручнікі, выкананыя на тканым уручную палатне, прапанавала купіць Вольга Несцярук з Крывятыч. Частка яе ручнікоў была выканана нават на палатне, якое спадарыня Вольга ткала асабіста. Побач яе папяровую ракіту прадавала Хрысцінія Грыгарук з Орлі, а далей вышываныя вырабы прапанавала Галіна Бірыцкая з Плянты. Карункавыя вырабы можна было купіць у Малгажаты Краўчык з Плянты, а свае карціны прадаваў Мікола Януоўскі са Старога Беразова, які пабыўку на беларускіх мерапрыемствах лічыць добрай прамоцыяй свайго мастацтва. Кавальскія вырабы можна было купіць у Леха Скепкі з Юшкавага Груда, Анна Крук прадавала біжутэрыю, а вышываныя вырабы прапанавала Анна Кузьма з Міхалова (яна родам з Сушчы). Лукаш Бароўскі з Суража прэзэнтаваў сярэднявечнае кавальства, гліняны посуд можна было купіць у Юрыя Бандарука, а Збігнеў Пяхоўскі вучыў дзетак асновам ганчарства. Беларускую літаратуру і сувеніры прадавалі працаўнікі Гайнаўскага белмузея. Свае вырабы прадаваў таксама Гайнаўскі фонд «Яны, гэта Мы». Можна было купіць саджанцы дрэў для пасадкі ў сваім садзе, мёд і іншае экалагічнае харчаванне.

— Гэтае «Купалле» і аднаўленне традыцыі з другой паловы дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя адбываецца, між іншым, дзеля зацікаўлення маладых людзей беларускай музыкай і беларускай культурай, каб можна было ўзмоцніць беларускую нацыянальную свядомасць. Ініцыятарам сённяшняга «Купалля» была дырэктар НАК Агата Смактуновіч. Мы ладзім яго ў духу дзевяностых гадоў, калі Звяз беларускай моладзі арганізаваў купальскія гульні з архаічным фальклорам і рокам, які цікавіў моладзь. Наладзілі мы тады 4 выпускі «Купалля». Сённяшняе «Купалле» намнога багацейшае, — сказаў старшыня Звязу «Шчыты» Ігар Лукашук.

— У мінулым Звяз беларускай моладзі арганізаваў «Купалле» ў асноўным для моладзі, бо старэйшыя адзначалі «Купалле» ў Белавежы. Добра, што зараз аднаўляецца гэтае мерапрыемства з ухілам на традыцыю і сучасную беларускую культуру, — заявіў мужчына, які будучы яшчэ кавалерам, прыязджаў на купальскае мерапрыемства.

Некаторыя ўдзельнікі «Купалля» побач Нарвы, якія ў дзевяностых гадах былі вучнямі сярэдніх школ або студэнтамі, у суботні дзень прыехалі з мужамі, жонкамі і дзеткамі.

— Мы прыязджалі на «Купалле» каля Нарвы будучы ліцэістамі. Тады не ўсіх нас пускалі на «Басовішча», а тут можна было паслухаць беларускі рок. Добра, што мерапрыемства аднаўляецца, бо моладзь з Гайнаўшчыны будзе магла паслухаць гурты з Беларусі — Зміцера Вайцюшкевіча з «WZ-АРКЕСТРАМ», калектыў «VURAJ» Аляксандра Ясінскага, пераможцы мінулагодняй «Бардаўскай восені». Надалей жыве ён у Празе і прыязджае на выступы з беларускімі калектывамі, — сказала Ілона Карпюк-Дамброўская, якая вяла беларускі пікнік і канцэрт на сцэне, а таксама сама выступіла з калектывам «ILO&FRIENDS».

Сабраным вельмі спадабаліся выступы Зміцера Вайцюшкевіча з «WZ-АРКЕСТРАМ» і калектыву «VURAJ». Зміцер Вайцюшкевіч удакладніў, што апошнім часам выступаў на Гайнаўшчыне падчас «Культуры на музейных сходах» у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Музычнае «Купалле» адкрылі войт Андрэй Пляскові, дырэктар НАК Агата Смактуновіч, старшыня Звязу «Шчыты» Ігар Лукашук, прадстаўніца Польскага таварыства аховы птушак Анета Гайко і вядучая мерапрыемства Ілона Карпюк- Дамброўская. Першымі адважна выступілі вучні з мясцовага калектыву «Вясёлыя ноткі», якія ўдала заспявалі па-беларуску. Мясцовыя сенакосныя, жніўныя і іншыя каляндарна-земляробчыя песні праспявалі «Падляшанкі» з Гарадзіска.

— Мы спяваем такія песні, якіх навучылі нас бацькі. Сёння заспяваем сенакосныя і жніўныя песні, якія падыходзяць да летняга перыяду, — заявіла кіраўнік «Падляшанак» Анна Тэслюк.

— Мы тут перш за ўсё прапагандуем ідэю аховы дубальтаў (лацінская назва: Gallinago media). Гэтыя птушкі ў нас вельмі рэдкія. У Польшчы ёсць 400-500 дубальтаў, з ліку якіх каля ракі Нарва жыве каля 50 штук. Мы займаемся таксама абкошваннем надрэчнай травы, — гаварыла Анета Гайко з ПТАП.

Падчас майстар-класаў, якія ў сваёй палатцы наладзіла Таварыства аховы птушак, дзеткі, між іншым, рысавалі дубальтаў.

Перад сабранымі выступілі калектывы «Гармонь» з Ласінкі і «Палудніцы» з Беластока.

— Мы самі пашылі новыя касцюмы, бо на прыродзе не хочацца ўжо выступаць у доўгіх спадніцах. Хвалюемся, каб у сваёй гміне, перад сваёй публікай выступіць як мага найлепш, — заявіла Магда Кірылюк з калектыву «Гармонь».

Арганізатары запрасілі таксама гурт «Гарпына» з Ольштына і Тэатр агню «GORE» з Сувалкаў. Пасля выступаў музычных калектываў разнесліся купальскія песні, па рацэ паплылі шматлікія вянкі, ахвотныя шукалі папараць-кветку. Сабраныя гасцявалі каля вогнішчаў, танцавалі пад гукі музыкі і песень у выкананні калектыву «Гай» з Беластока.



■ Нарваўскае «Купалле» адкрылі войт Андрэй Пляскові (другі справа), дырэктар НАК Агата Смактуновіч (другая злева), старшыня Звязу «Шчыты» Ігар Лукашук, Анета Гайко з ПТАП (першая злева) і вядучая Ілона Карпюк-Дамброўская



■ На «Купаллі» выступіў гурт «VURAJ» з Беларусі, якога лідарам з'яўляецца Аляксандр Ясінскі, пераможца мінулагодняй «Бардаўскай восені»

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Конкурс
### Драматычнага тэатра

Драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку разам з рэжысёркай Магдай Купрыяновіч запрашае беластачан да ўдзелу ў конкурсе «**Успаміны немагчыма падрабіць**» (**Wspomnienia nie do podrobienia**). Яго мэта заключаецца ў заахвочванні жыхароў Беластока да напісання ўспамінаў з 1939-1989 гадоў. Аповеды, адпраўленыя на конкурс, будуць выкарыстоўвацца для напісання п'есы, якая будзе пастаўленая ў наступным тэатральным сезоне. Удзел у праекце дае магчымасць для сумеснага развіцця гісторыі горада Беластока, бачанай вачыма яго жыхароў. Гісторыі, у якой вялікія палітычныя падзеі даюць поле анекдотам і падзеям паўсядзённага жыцця. Гісторыі, у якой кожны знойдзе месца, і аб'екты знаёмыя з яго ўласнага вопыту.

Рэжысёрка спадзяецца, што спектакль, які ўзнікне па запісах конкурсных прац, не будзе распавядаць толькі пра гісторыю жыхароў Беластока, але таксама пра феномен самой памяці. Такім чынам, яна зацікаўлена не толькі ў тым, якія факты жыхары лічаць годнымі апісання, але і як успаміны імі будуць запісаны. Ёй залежыць на тым, каб аддаць на сцэне настальгічны тон, які часта суправаджае вяртанне ў памяці да таго што мінула.

Конкурс працягнецца да 1 жніўня. Падрабязную інфармацыю, рэгламент і форму заяўкі можна знайсці на вэбсайце: www.wspomnienianiedopodrobienia.com. Працы будзе ацэньваць прафесійнае журы, у склад якога ўваходзяць Ігнат Карповіч, Пётр Нестаровіч і Магдалена Верамеюк. Самыя цікавыя працы будуць апубліканы на сайце конкурсу, а іх аўтары атрымаюць грашовыя і матэрыяльныя прэміі. Галоўны прыз — 3000 зл., другі пераможца атрымае 2000 зл., а трэці — 1000 зл. Рашэнне конкурсу, уручэнне ўзнагарод пераможцам адбудзецца 30 верасня 2015 года. **(мх)**

## На нашых дарогах

1 ліпеня гэтага года ехаў я веласіпедам павятовай дарогай з Новага Ляўкова ў Лешукі. Зараз равы і абочыны яе ў густых зарасніках. Ехаў я па маставой з правага боку і галіны кустоў з буйным лісцем часта білі па правай руцэ. Дарога з-за гэтага кустоўя павузела і стала небяспечнай.

2 ліпеня г.г. прыйшлося мне ехаць з адной часткі вёскі Плянта ў другую. Ад чыгункі ехаў я па роўнай гравійцы (таму, між іншым, па ёй можна хутка ехаць), але... яна з вельмі крутымі чатырма паваротамі. Гэтую дарогу густа „абступаюць" малыя і вялікія кусты на ўсёй яе даўжыні — на паваротах таксама. Павярнуў я на асфальтавую дарогу з Плянты ў Лесную. Маставая на ёй раўнюсенькая. Недзе 5-6 гадоў таму яе аддалі ў карыстанне. А на абочынах ужо выраслі... купчастыя кусты алешніку, вербалозу ды маладзенькія сасонкі.

Я, жыхар, радны і солтыс аднае з вёсак Нараўчанскай гміны, звяртаюся да Праўлення павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы: больш увагі прысвяціце равам і абочынам «сваіх» дарог. Перш-наперш неабходна дзе выкарчаваць, а яшчэ дзе ссячы зараснікі. Ведаю, што пра тое ж самае прасілі солтысы Міхнаўкі (яна каля Лешукоў) і Плянты. Прайшоў адзін год, ідзе другі і ніякага зруху ў гэтай справе. Можа нававыбраны гайнаўскі староста пакліча да сябе «на дыванік» кіраўнічку ППД? Як мне вядома, у ППД неабыякая бюракратыя. Між іншым, ужо будзе год як змагаюся, каб у Новым Ляўкове ссеклі некалькі засохлых дрэў. Яны небяспечныя для дарожнага руху. І так, «кружаць» пісьмы, тэлефанаваў у ППД, гаварыў пра гэта на майскай сесіі Гміннай рады ў Нараўцы ў прысутнасці кіраўнічкі ды ўсё яшчэ чакаю, чакаю.

**(яц)**

# Другі пікнік са словам у Трасцянцы

**У адну з самых доўгіх вёсак у краіне запрасіў творчых асоб тутэйшы пісьменнік-«белавежац», мастак, педагог, падарожнік і аквалангіст еўрапейскай вядомасці Віктар Стахвюк — у сваю родную мясціну, куды вярнуўся жыць і працаваць. Тут ён аднавіў старадаўнюю хату, жыве і гаспадарыць на 150 гектарах. Пасярод ягонай маёмасці, у атачэнні лясоў і скошаных лугоў, вечарэючы пры вогнішчы, ужо другі год праводзіцца творчая сустрэча пісьменнікаў з чытачамі.**



Чытачы, які выбралі адну з імпрэз, што шматліка ў летні ўік-энд разгуляліся па Беласточчыне, дабіраліся па складаным шляху «улева, улева а потым управа» (па дарозе стаялі таблічкі «Да Віктара»), пад вятрыска, які збіваў з дарогі. Той вецер лапатаў банерамі «ІІ пікнік беларускага слова» і рваў з вуснаў родныя словы, але не даў рады заглушыць таго, што хацелі сказаць людзі хацеўшыя выказаць свае думкі і пачуцці на роднай мове. На доўгіх сталах ляжалі кнігі — у каго з пісьменнікаў ладны стосік, сведчыўшы пра прабыты літаратурны шлях, у іншых, як у Барбары Гаральчук, што першы раз паявілася ў гэтай кампаніі — пакуль адна выдадзеная кніга, але ўжо выклікаўшая шмат эмоцый у чытачоў на Беласточчыне, да якіх данесла свой твор дэбютантка.

— Дазвольце мне, як гаспадару, прывітаць усіх на гэтым месцы, — пачаў Віктар. — Пакуль яно не мае назвы...

— Городіска! — спаслаліся на яго старую назву слухачы.

— У мінулым годзе мы ўжо тут сустракаліся. Сёння спаткаліся, каб паслухаць знакамітых пісьменнікаў, шэфа «Белавежы» прафесара Яна Чыквіна, прафесар Галіну Тварановіч, Барбару Гаральчук, што напісала раман пра бежанства, Кацярыну Сянкевіч з Нарвы — студэнтку мастацтва і аўтарку двух паэтычных зборнікаў, ілюстратарку кніг, ды Міру Лукшу, якая прыязджае на ўсе нашы трасцяніцкія сустрэчы... Многія сябры сёння не паспелі, паколькі мы змянілі дату доўгачаканай сустрэчы.

— А чаму пра сябе не расказвае наш гаспадар, выдатны паэт і празаік? — уключылася Галіна Тварановіч. — У мінулым годзе выйшла яго цудоўная кніга, унікальная ў беларускай літаратуры, і ў метраполіі, і ў самой «Белавежы» — не было да гэтага ў беларускай літаратуры кнігі пра Камчатку і пра Корсіку. З'явіліся ўжо літаратуразнаўчыя інтэрпрэтацыі на яе тэму. Невыпадкова кіпучая энергія збірае вакол сябе беларускі корань. Мы вельмі ўдзячныя гаспадарам гэтай сустрэчы за спатканне.

— Я прысутнічаю ў такой сустрэчы другі раз, — сказаў Ян Чыквін. — Уражанне вельмі прыемнае, паколькі новае месца, прыгожы куток прыроды, ёсць вада, рэчка, лес, краявід. Гэта ўсё славянскае, беларускае, роднае, сваё.... Ці гэта будуць Бандары, ці гэта будуць Дубічы, Крынкі — пейзаж больш-менш аднолькавы, і гэты пейзаж таксама нас усіх яднае. Гэта — аснова асноў. Гэта павінна нас яднаць, і гэтае сонца, і гэты вецер, і халадок, які і ў мінулы раз быў. Гэтыя з'явы паўтараюцца ў нейкай ступені. Паўтараюцца і людзі, і мінулым разам была з вас частка тых самых — пазнаю іх, прыхільнікаў беларускага слова. Хаця збіраюцца яны не толькі для роднага слова, а каб пабыць у кампаніі, для стану душы, не толькі для таго, каб нешта перадаць — пераказаць, але хутчэй нешта ўзяць, нечым узбагаціцца.... «Белавежа», якая была заснавана амаль 60 гадоў таму, пакідае значныя сляды беларускай прысутнасці на Беласточчыне і ў Польшчы. Мы не з'яўляемся дыяспарай. Беларусы ў Польшчы жывуць на сваёй зямлі. Нават гэтая прырода беларуская. Яна дыхае чалавекам. І не цурайцеся свайго, не адмаўляйцеся ад роднага, таму што ніхто — ні ў Польшчы, ні ў Расіі, ні ў Нямеччыне ад нас не патрабуе — каб вы былі немцамі, рускімі ці палякамі. Асабліва ў літаратуры ніхто не патрабуе, каб пісаць па-нямецку, па-польску ці па-руску. Трэба пісаць пасвойму. Трэба жыць сваім жыццём. Пабеларуску. І вось гэты лёс будзе справядліва аддаваць... Я хачу прачытаць верш, які датычыцца нас, і не толькі нас, таму што гэты верш, прачытаны ў Мінску, быў успрыняты мінчанамі, беларусамі, да сябе. «Нас мала, гэта не значыць, што мы анічога нявартыя. Нас крыўдзяць — і гэта мы бачым. Ды ў гэтым змаганні не іначай мацнее наш дух, непераможна ўпарты... Мы не згубіліся ў дзеях, за намі — сцягі слаўных вояў, над намі іх неба гісторыі. Той шлях нас і цяпер вядзе з веку ў век. І з намі надзея. Бойцеся нас — бо нас мала! І мы сваё маем джала! Мацнейшае за кожную зброю — слова нашае. Слова. Яно як тая Пагоня мчыцца ўсё ў бой і нас бароніць!»

— Моцнае. І бачыце тых, хто валодае словам. Мы ўсе валодаем гэтай зброяй, бо мы — гаворым, — сказаў Віктар Стахвюк слухачам. — Мы гаворым на сваёй мове. Мы на сваім месцы.

— Я прачытаю свой верш «Роднае месца», — выявілася як паэтэса Барбара Гаральчук. — «Роднае месца, у якім я прыйшла на свет. Дзе таптала першыя сцежкі, ела першы мед. Дзе шукала дабра, шчасця, плакала не раз, дзе з сяброўкамі гуляла і была адна. Тое месца ў маім сэрцы — заўсёды маё. І на цэлым Божым свеце такога не найдзеш...» Я — адсюль. І вы — адсюль, слава Богу, — чытала свае словы, напісаныя даўно, з вялікім хваляваннем аўтарка родам з Мокрага, цяпер жыхарка Бельска, і расказала пра сваю кнігу. — Гэтая кніга развівалася ў маім сэрцы ад маленства. Мая бабуля расказвала розныя гісторыі з часу першай вайны, бежанства, вяртання дамоў. І я памаленьку даспела да таго, каб напісаць кніжку, не толькі пра маю сям'ю.



Аўтары чыталі свае творы, з якіх выяўлялася тое іхняе даспяванне да апісання роднага, сваёй душы і свайго месца ў свеце, умацавання ў ім — у родным краявідзе.

— Я ўжо ў мінулым годзе рашыў запрасіць паэтаў і чытачоў на прыроду, — прыгадваў Віктар Стахвюк. — У зале вельмі добра прэзентуюцца паэты, бо і акустыка лепшая, і вецер не дзьме, і голас даходзіць вельмі добра да аўдыторыі. Але на прыродзе іншая энергетыка. І калі чалавек, слухач, сустракаецца са словам, з беларускім, словам паэта, на якой мове б ён не пісаў, — ён інакш гэта ўспрымае. А гэтае месца — незвычайнае. Тут і «месца моцы». Тут 3800 гадоў таму стопрацэнтна была праславянская вёска, знайшлі тут старажытныя гаршкі, штрыхаваныя зарубінецкай праславянскай штрыхоўкай. Лешэк Матэля, вядомы радыестэзіст, памераў, што тут ёсць 20 тысяч адзінак па шкале Бові. Нават камар не праляцiць. У прыгожае, бязветранае надвор'е тут цудоўна, а сёння толькі трынаццаць па Цэльсію. Ды грэемся родным словам! Важна, што сёння мы пачулі самых лепшых паэтаў. Слухаць іх твораў — гэта для мяне свята душы. Праз год пастараюся зноў тут сабраць і аўтараў, і больш публікі — найму аўтобус, звязу публіку з Трасцянкі і другіх месцаў, таму што сюды сапраўды далекавата, і толькі сапраўды моцныя аматары роднай літаратуры змаглі дабрацца ў такую непагоду... Паэт, які сутыкнецца з жывым паэтам, а не толькі яго кніжкай, інакш успрымае слова. Калі чытаеш верш Міры адзін, а калі бачыш яе і адчуваеш яе лячэбную энергетыку — гэта зусім інакш. Калі бачыш натхнёна чытаючага свой твор Яна Чыквіна — не памылішся ў адчуванні твора. Я бачыў, як наша трасцяніцкая і нарваўская публіка ўспрымала выступленні аўтараў.

Ігар Лукашук:

— Вельмі дзякуем гаспадару, што даў нам такое месца, такую магчымасць, даў сваё сэрца для таго, каб мы тут сустрэліся. Для мяне гэта сустрэча і сямейная, і спалучэнне будняга са святам. А мы павінны падыходзіць да беларушчыны больш як звычайнага, паўсядзённага, а не «ад свята да свята». І кнігі павінны быць нашымі настольнымі, якія мы чытаем.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Верныя дочкі строгага праваслаўя



Фотамантаж: Вера Янкаў (злева) і яе маці Марыя Янкаў (справа)

— Бабуля, а ты якая? Польская ці руская?

— Руская.

— А мо беларуская?

— Руская.

Так выглядалі мае першыя пошукі ўласнай нацыянальнай тоеснасці.

Бабуля Вера Янкаў нарадзілася ў 1918 годзе ў Шыбраі Тамбоўскай вобласці. Даўно няма яе ў жывых. Памерла ў цёплы, сонечны дзень, зараз пасля завяршэння службы на свята Успення Прасвятой Багародзіцы. З востраўскага фэсту ў Крынкі вярталася я пехатою, жніўнымі палямі, напрасткі. Гэтай дарогай цётка Алена з маладой Верай хадзілі ў Крынкі жыдам служыць. Ішла я і ўспамінала надзвычай сціплае жыццё гэтых дзвюх жанчын. У той момант, зусім несвядома, але мабыць падсвядома, здзяйсняла я асабіста апошняе бабулінае падарожжа знаёмай да болю сцяжынай. Бацюшка не пагаджаўся хаваць яе разам з Багародзіцай. Той дзень адведзены выключна Прасвятой. Але ж чаму не паслухаць Божага голасу? Ён жа, прынамсі, павінен быць царкоўным аўтарытэтам. Калі паклікаў Веру на Успенне, значыць, яна гэтага заслужыла. Вера, хаця ў манастыры ніколі не пражывала, вяла сябе як найсапраўднейшая з сапраўдных манашка. Належала да востраўскага царкоўнага брацтва і як братчыцы паклалі ёй у труну брацкую свечку.

Гладка прычэсаныя валасы заўсёды скрывала пад завязанай пад барадой хусткай. Нават спаць лягала ў хустцы. Ніякіх завушніц, ні пярсцёнкаў. Жыла ў невялікай хатцы ў Паўднёвым Востраве пад вялікім, абвешаным фіранкамі і быццам вечным агнём лампад, святым кутом. Фраза „Хлеб і вада і няма голада” была ейным жыццёвым лозунгам. Выконвала яго літаральна. Як пост дык сапраўдны пост. Увогуле не любіла марнатравіць часу на кухні, лепш было зачытацца ў старых, цяжкіх, выкапаных з зямлі пасля вяртання з бежанства, стараславянскіх кнігах. А і апошняга граша царкве ніколі не шкадавала. Калі нейкая залатоўка яшчэ заставалася, аддавала яе ўнукам. За іх здароўе хадзіла з крыжамі на каленях вакол старой грабарскай царквы. Потым прывезенай адтуль вадой і знятай з крыжа стужкай перад сваімі абразамі прамывала хворых унучанят. Памагала лепш, чым самыя лепшыя палiклiнiкi. У царкву маршыравала ў ярка-аранжавым світары, цёмнай спадніцы і святочнай



Марыя Янкаў з дачкой Надзяй з першага сужонства

хустцы. Ніколі не спазнялася, больш таго прыхodзіла нашмат раней, чым жывучы ля самой царквы бацюшка. Ці лета, ці зіма малілася перад яшчэ закрытымі дзвярыма. Яе любімае месца было з самага пераду, зараз за гробам Багародзіцы, а мяне малую саджала на яго парогах. Заўсёды пільнавала, каб унукі, прачнуўшыся на раніцы, згаварылі малітву і пацалавалі свае крыжыкі. Мая прывязанасць да крыжыка ў маленстве была настолькі вялікай, што калі аднойчы ён прапаў, ад трывожнага плачу папухлі мне вочы і разбалелася сэрца. Самым жаданым бабуліным падарункам была святая кніжка альбо прысутнасць унукаў на божай службе. Настолькі аддавалася малітве і святым чытанням, што амаль не мела грамадскага жыцця. Ніколі не пляткарыла, не сказала кепскага слова.

Святкавалася ёй найлепш адной у сваёй хаце. Не, не адной. На куццю заўсёды клікала душы сваіх бацькоў Марыі і Паўла, а потым цётку Алену. З імі куцця смакавала ёй найлепш. А мне смакавалі сырыя яйкі. Піла я іх у час летніх вандровак з бабуляй па навакольных балотах, слухаючы рускія народныя казкі і краснаармейскія песні.

Верушка была надта маўклівым чалавекам, асаблівa, калі справа ішла пра яе прошлае. Ідэалізавала вобраз сваёй маці Марыі. Што ж, калі тая памерла зараз пасля нараджэння Веры. Веру паклалі ў труну разам з мамай, але тая прабудзілася. Марыя закрыла вочы назаўсёды, на Пасху, калі бацюшка крыжам і словамі „Хрыстос уваскрос” адкрываў тамбоўскую царкву.

Марыя і яе першая дачка Надзя Мішчук жылі ў Новым Востраве. У Расію паехалі без бацькі Івана, якога ў 1913 годзе забілі на вясковай забаве. Надзі было тады ўсяго дваццаць тыдняў.

Марыя выйшла замуж другі раз, у бежанстве, за нейкага расіяніна Паўла Янкава. Амаль не зазнаўшы сямейнага шчасця, памерла ў 1918 годзе пры родах другой дачкі Веры. Ніхто не ведае кім быў Павел і як склаўся яго лёс пасля смерці жонкі. Сіротамі Надзяй і Верай заапекавалася незамужняя сястра Марыі — Алена Жамойда, вясковая мянушка Дзем'янчук, з Паўднёвага Вострава. Вярнуўшыся з бежанства, адну з сірот, Надзю, пасяліла ў Новым Востраве на чвартаку зямлі Мішчукоў, а Верцы пабудавала маленькую хатку ў Паўднёвым Востраве. Алена і Верушка разам жылі, разам на службу да жыдоў хадзілі, разам маліліся. Верка з удзячнасці апекавалася цёткай як уласнай маткай да самой смерці. Спачылі разам, у адной востраўскай магіле, пад сціплым крыжам, перавязаным сіняй лентачкай.

Незамужняя Алена, так як і вечна адзінокая Верушка, былі ўзорам рэлігійнасці, вернымі дочкамі найбольш строгага праваслаўя. Ці гэта вынік сутыкнення з глыбокай рускай рэчаіснасцю пачатку XX стагоддзя, ці ментальная спадчына іх востраўскіх продкаў? Мне гэтага невядома.

**Іаанна ЧАБАН**

## Давайце спрабуем!

Восенню маюць адбыцца ў Польшчы парламенцкія выбары. Зноў прафесійныя спрытнюгі, разлічваючы на кароткую памяць і бяздумнасць электарату, стануць карміць яго абяцанкамі, „з заклапочанасцю” прыглядзяцца ахове здароўя, натуральнаму прыросту, цяжкай долі сялян, шахцёраў, медсясцёр і беспрацоўных. З асаблівай увагай пацікавяцца матэрыяльным становішчам пенсіянераў — і ў гэтым выпадку праявяць яны сапраўднае зацікаўленне нашай фінансавай сітуацыяй: папросту ім будзе цікава колькі яшчэ грошай будзе можна з нас выцiснуць, каб ім хапіла на чарговыя геніяльныя рэформы, ну і на дэпутацкія камандзіровачныя, якія абавязкова трэба будзе павысіць, паколькі жыццё (дэпутатаў) становіцца штораз даражэйшым.

А пасля, калі ўжо іх выбярэм, стануць яны выпускаць чарговае заканадаўчае барахло. Такое, як апошнім часам уступіўшыя ў сілу змены ў дарожны кодэкс. Я прыхільнік барацьбы з вадзіцелямі, якія перавышаюць бяспечную хуткасць, ездзяць у нецвярозым стане, парушаюць правілы дарожнага руху, але выказваюся супраць дэмакратычнага падыходу да праблемы, якая апошнім часам была юрыдычна санкцыянаваная.

Прынамсі з часу Оруэла мы павінны ведаць, што дэмакратыя — гэта такая сістэма ўлады, у якой усе людзі сабе роўныя, у тым ліку і агульнавядомая ленінская кухарка (якая, паводле слоў Уладзіміра Ільіча, можа кіраваць краінай і часта кіруе), і прафесар універсітэта, і духоўны саноўнік, і звычайны грамадзянін. Апрача „роўных” у дэмакратыі бываюць яшчэ „больш роўныя”. У астатняй групе апошнім часам апынуліся дэпутаты Сейма, сенатары, суддзі і пракуроры. Канешне, апрача іншых, якія — напрыклад, міністры — апынуліся ў ёй раней. Такім чынам новыя рэстрыктыўныя палажэнні дарожнага кодэкса гэтага кола дзяржаўных служачых не тычацца. Так вырашылі цяперашнія парламентарыі, значыць выбраныя чатыры гады таму „лепшыя з лепшых”.

Таму прапаную нашым чытачам зрабіць эксперымент: давайце спрабуем не выбіраць тых, якія сёння з'яўляюцца „святымі каровамі”, давайце выбярэм зусім новых людзей, не дэмаралізаваных бяскарнасцю і вялікімі грашыма. Можа ўдасца, можа пастаўка свежай крыві вылечыць нямогласці дзяржаўнай сістэмы. Горш чым цяпер напэўна не будзе. Ну што, спрабуем?

**Марк ЦЫБАРТ**

## У Міхалове пасадзілі дрэўцы

У Міхалове (Беластоцкі павет) у сувязі з рознымі перабудовамі і пабудовамі ссеклі частку старых дрэў, між іншым, каля даўняга рынку і ў гарадскім парку. Так ужо ў горадзе даволі часта бывае. І таму пачалі пасадку маладых дрэўцаў восенню 2014 года. Садзілі перш-наперш ліставыя — ліпы, клёны і дубы. Усе яны прыняліся.

Сёлетняй вясной пасадзілі яшчэ 147 дрэўцаў ліпы, клёну, рабіны, елак, шыпшыны і ароніі.

Варта дадаць, што маладыя дрэўцы — дванаццаць ёлачак — пасадзілі ў Бандарах (Міхалоўская гміна) побач тамашняга амфітэатра. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі



Фота Павел Гжэсь

# Хітрун Данель

Даўным-даўно, у далёкай краіне, дзе ўсе жывёлы размаўлялі на чалавечай мове, жыў алень. Яго звалі Данель. Ён жыў адзін, таму што яго сям'ю зарэзалі для шкур. Данель сумаваў па сям'і. Настаў новы дзень. Данель пайшоў шукаць яды. Ішоў праз лес, лугі аж знайшоў між кустоў сакавітую траву. Наеўся і пайшоў далей. На сваёй дарозе ён патрапіў у пастку. Скалечыў нагу. Вяртаючыся дадому ён пачаў клікаць на дапамогу, аднак звяры не пачулі. Данель прысеў і стаў плакаць. Плакаў, што ў яго цяжкі лёс і шмат няздзейсненых packages мараў. Ён заўсёды хацеў быць чалавекам. Праз некалькі хвілін прыляцела да яго варажбітка-фея, якая паспрабавала вылечыць аленеву нагу. Завяла яго ў сваю хату. Жылі яны разам цэлы тыдзень. І ўрэшце Данелю трэба было вяртацца ў лес. Варажбітка падаравала яму чароўнае кальцо і сказала:

— Калі спатрэбіцца табе дапамога, трэба два разы ўдарыць у кальцо!

Данель не хацеў вяртацца дамоў. Ён падумаў, што будзе ўвесь час патрапляць у пасткі. Як падумаў, так і зрабіў. Ён папаўся ў пастку, стукнуў у кальцо два разы, а пасля прыляцела фея. Яна забрала аленя на два тыдні ў свой дом...

І зноў прыйшоў час вяртання. Данель выйшаў на «волю» і адразу ўлез у пастку. Гэта паўтаралася ўвесь час. Добрая фея здагадалася, што Данель хоча жыць на яе кошт. Яна вырашыла правучыць хітруна.

Зноў надышоў дзень вяртання. Раней фея пазбірала ўсе пасткі, расстаўленыя браканьерамі ў лесе, ды схавала іх, каб ніхто не знайшоў. І зараз, калі Данель вяртаўся дамоў, ён быў здзіўлены, што нідзе няма пастак. Тады ён падумаў каб усё-такі вярнуцца да феі:

— А дзе ж падзеліся пасткі ў лесе? — спытаў яе з жалем.

Варажбітка адказала яму, што ён не павінен выкарыстоўваць дзеля сваёй выгады ні людзей, ні звяроў, ні феяў. Асабліва — феяў! Гэта прыводзіць да катастрофы.

Яна адабрала ў хітруна чарадзейнае кальцо і не сказала больш ні слова...

Алень Данель не ведаў што рабіць. Ён пабег у свет і ўжо не вярнуўся ў свой лес.

***Агнешка Петручук — «Сустрачанскія навіны»***



Фота Ганны Кандрацюк

## МАЛЕБЕН ЗА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ СУСТРЭЧ „ЗОРКІ"

Скіт прападобных Антонія і Феадосія Кіеўска-Пячэрскіх у Адрынках вядомы ўсім, але не кожны там быў. Мы мелі магчымасць паехаць да айца Гаўрыіла. З месцам і гісторыяй пазнаёміў нас спадар Валодзя Весялоўскі. Чаму Адрынкі сталі пустэльняй архімандрыта Гаўрыіла? Гэтае месца спачатку яму прыснілася. Ён не ведаў, што ў Адрынках з XVII стагоддзя быў манастыр. Калі архімандрыт прыйшоў сюды жыць, не было будынкаў, царквы. Першыя месяцы ён жыў пад стрэшкай з брызенту, на голай зямлі. Але добрыя людзі не пакінулі яго, прыцягнулі вагон, пасля дапамаглі паставіць царкву, домік і гаспадарчыя будынкі.

Айцец Гаўрыіл — доктар душ (ён — духоўная асоба), доктар цела (лечыць людзей зёлкамі) і добры кухар (смачна гатуе). Яго ведаюць з-за гасціннасці. Нас таксама пачаставаў ласункамі і гарбаткай з зёлак.

Аднак самым важным для нас быў удзел у малебне за ўдзельнікаў і сяброў Сустрэч „Зоркі", і супрацоўнікаў „Нівы". Частка нашых сяброў спявала на хоры. На канец мы дапамаглі айцу Гаўрыілу паставіць у належным парадку новапафарбаваныя лаўкі. Гэтая сустрэча запамятаецца нам на вельмі доўгі час.

**Міхась Сахарчук, Наталля Васько — *„Сустрачанскія навіны"***

# УВАГА КОНКУРС! № 30-15

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 2 жніўня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Беленькія вейкі,
Жоўценькія вочкі.
Міргаюць яны сонейку
ад раніцы
да ночкі.
(Р......)**

**Курэў,
Дурэў,
Ля-таў-ў-ў,
С-с-сві-с-стаў.
І каб прыстаў!
Размятае смецце
Гэты жэўжык...
(В....)**

**Н. А. Старажава**

**Адказ на загадкі № 24-15: ружа, дождж.**

**Узнагароду, беларускую кніжку, выйграла Наталля Петручук з Нарвы. Віншуем!**

## *Кніжка*

*Калі людзі вакол цябе
злосныя, нядобрыя,
Калі не хочацца з імі гаварыць,
Ты вазьмі кніжку і ідзі
ў гушчар лесу.
У адзін момант забудзеш
пра крыўды,
Адляціш у іншы свет,
У якім ты ніколі не быў,
І які ніколі не паўторыцца
ў тваім жыцці.*

*Магдаліна Бяляўская
«Вокны Беларусі»*

# Каб вы былі шчырымі беларусамі!

***Інтэрв'ю з Лявонам Тарасэвічам, мастаком сусветнай вядомасці, адным з ініцыятараў і ўдзельнікаў Сустрэч «Зоркі»***

**Уля Шубзда:** — *Сустрэчы «Зоркі», якія ладзяцца з канца 1990-х гадоў Ганнай Кандрацюк-Свярубскай, гэта своеасаблівы летнік для школьнікаў і моладзі Беласточчыны. Вас можна лічыць адным з ініцыятараў і ўдзельнікам Сустрэч. Як Вы ўспамінаеце тадышніх удзельнікаў і тыя сустрэчы з Вашым удзелам?*

**Лявон Тарасэвіч:** — Ну, ведаеш, гэта ўсё было такое дзіўнае. Фонд «Паграніччa» арганізаваў у Сейнах розныя праекты і яны ніяк не маглі дабіцца, каб прыехалі беларускія дзеці. Тады яны скантакталіся з Сакратам Яновічам, які пазваніў мне і сказаў, што ёсць такая праблема. Я выбраў пяцёра дзяцей з Гарадка і мы разам з Гандзяй паехалі ў Сейны. Ну, здаецца, гэта быў такі пачатак. Разам з намі былі літоўцы, стараверы, палякі з Вільні і ўкраінцы. Кожны меў сарганізаваць вечар сваёй культуры, нешта прадставіць, паспяваць песні. Мы будавалі на гары Шэльмент святыню, кожны меў сваю задачу — адны спявалі на сваёй мове малітву да св. Францішка, іншыя пісалі іконы, нехта рабіў званы. Заўсёды ў такой групе было па адным дзіцяці кожнай нацыянальнасці. Так што было цікава. Тады падышла да мяне дзяўчынка з Гарадка і кажа: «Panie Leonie, panie Leonie, ale tam nikt nie rozmawia po polsku». Адным словам, нам вельмі там падабалася. Калі трэба рабіць каплічку пры ўваходзе на гару, мы падумалі, што на Беласточчыне няма звычаю ставіць каплічкі, толькі крыж. Я прыдумаў, што мы возьмем адзін стоўп, накрэсліў я на ім месцы на шэсць ікон і кожнае дзіця намалявала сваю іконку. Гэта выглядала вельмі прыгожа, пасавала да месца.

**Уля Шубзда:** — *Дакладна, вось менавіта гэтыя крыжы, якія размалявалі дзеці на Сустрэчах «Зоркі», стаяць па сёння. Яны сведчаць пра нашую тут прысутнасць на гэтай зямлі. Я хацела б спытацца, ці моладзь разумела значэнне сваёй працы?*

**Лявон Тарасэвіч:** — Я думаю, што так. Пасля Гандзя сказала, што трэба нешта зрабіць на Беласточчыне для нашай моладзі, у нашай вёсцы. Мы падумалі, што будзем маляваць і ставіць крыжы. Першы крыж мы зрабілі ў Меляшках. Вёска вельмі гасцінна прыняла нас. Як добра ведаю, такіх крыжоў на Беласточчыне ёсць васямнаццаць. Размаляваныя крыжы прынеслі ў вёскі малады дух, бо размалёўкі дзяцей заўсёды маюць сваю вітальнасць і радасць.

**Уля Шубзда:** — *Сустрэчы «Зоркі» можна назваць такімі неканвенцыянальнымі заняткамі беларускай мовы.*

**Лявон Тарасэвіч:** — Думаю, што дзеці пад кірункам Гандзі былі такой плошчай, на якой рыхтавалася маладая, актыўная частка беларускай моладзі, так як пакаленне раней на рэйдах «Бацькаўшчына». На іх рыхтаваліся кадры пазнейшай беларускай інтэлігенцыі. Думаю, што тут загаспадараваная натуральная актыўнасць моладзі, і добра, што Гандзя гэта вядзе.

**Уля Шубзда:** — *Вы тут сказалі пра беларускую інтэлігенцыю, якая выйшла з ліку ўдзельнікаў Сустрэч «Зоркі». А ці Сустрэчы дапамагалі раскрыць і развіваць таленты?*

**Лявон Тарасэвіч:** — Напэўна, так. Перш за ўсё выспявала нацыянальная свядомасць і дзеці развіваліся. Што з гэтай адукацыі, калі няма свядомасці? Гэтая праца, якую робяць у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім, дзе людзі вывучаюць добра беларускую мову, а пасля яна служыць толькі як прылада працы. Шкада толькі што на сённяшні дзень студэнты не працягваюць гэтага працэсу.

**Уля Шубзда:** — *Зараз мінае 20 гадоў ад першых Сустрэч «Зоркі». Ці Вы хацелі б нешта перадаць сучасным удзельнікам і вядучай Ганне Кандрацюк-Свярубскай?*

**Лявон Тарасэвіч:** — Я хацеў бы, каб дзеці заўсёды былі такімі шчырымі, каб былі беларусамі. А Гандзя, каб цэлы час была Гандзяй.

*Інтэрв'ю апрацавалі* **Уля Марчук і Міхась Сахарчук** *з газеты «Сустрачанскія навіны». Фота з архіва "Сустрэч Зоркі"*"



Бандары, 1996 г.





Крыж у калёніі Мялешкі і ўдзельнікі пленэру, 1995 г.



Шэльмент, 1995 г.

## Голас

*Ціхі і звонкі*
*Мяккі і цяжкі*
*Мой...*
*Яе голас.*
*Голас жыцця, прыроды.*
*Голас Беларусі.*

*Веранiка Кардзюкевiч*
*— „Вокны Беларусі"*

# Польска-беларуская крыжаванка № 30-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 26:**

Сусед, дыскусія, студэнт, патрыёт, курка, аэрапорт, вочы, паляўнічы. Зброя, пошта, тэатр, палатка, Ніва. Лозунг: Сустрэчы «Зоркі».

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Наталля Ляўчук** з Чыжык і **Моніка Зенюк** з Хітрай. Віншуем!

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Łódka | | Mit | Imiona | Przewodnik | | |
| | Mignienie | | | | Dom | Wrona |
| | | Pokój | | | | Nie |
| | Och! / Miód | | | | Wio / Fa | |
| | | | | Suszarka / Klin | | |
| | Ryba | | | | | |

# І ў Нараўцы зараілася ад вянкоў

**Купальскую ноч пачалі святкаваць тут незадоўга да змяркання. Пускалі па рацэ Нараўцы вянкі, а іх стваральніцы змагаліся ў конкурсе на найпрыгажэйшы вянок. Былі і феерверкі. Раней вуліцамі пад амфітэатр над ракой прайшло, спяваючы «Купалінку», маляўнічае шэсце калектываў, якія неўзабаве выступілі на сцэне.**



— Гэта свята, якога ўжо з нецярпеннем чакаем кожны год, — прызналіся мясцовыя жыхары. Былі і турысты з Польшчы, і нават з-за мяжы, захопленыя магіяй агню, вады і любові.

У мясцовым амфітэатры 11 ліпеня гулялі натоўпы людзей. З нагоды свята войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч у гутарцы з намі нагадаў сваю першую, захаваную ў памяці, купальскую ноч:

— Гэта было каля трыццаці пяці гадоў таму ў лясным пасёлку Грушкі і гэта, верагодна, была першая купальская ноч у нашым павеце і ў гэтай частцы Падляшша. Вядома, яна выглядала па-іншаму, чым цяперашняя тут. Гэта было ў цэнтры Белавежскай пушчы над ракой, з вогнішчамі, але былі толькі нашы калектывы, нікога з Беларусі. Памятаю, мы паспявалі і пусцілі вянкі. Арганізатарам было, здаецца, Беларускае таварыства і тагачасныя гмінныя ўлады.

Са спасылкай на ноч Купалы ў Нараўцы дадаў:

— Мы прыглядаліся, як БГКТ арганізуе ноч Купалы ў Белавежы, і калі мы падумалі аб яе арганізацыі ў Нараўцы, вырашылі не рабіць канкурэнцыі той імпрэзе. Такім чынам яны робяць сваю ў першы ўік-энд ліпеня, і мы ўжо традыцыйна ў другі. Ёсць канікулы і ёсць шмат турыстаў, і гэтае мерапрыемства з'яўляецца дасканалай формай, каб паказаць нашу культуру, традыцыі і звычаі.

Без сумневаў, і гэтае свята, на працягу многіх гадоў арганізаванае ў Нараўцы, гэта адзін з летніх турыстычных атракцыёнаў гміны. Улады паставілі тут на турызм, чаго выразам была адмысловая акцыя ў 2013 годзе, дзе з рэкламных шчытоў у Беластоку, Любліне і Варшаве гміна рэкламавалася як «Зялёная краіна добрых вятроў». Якія яе наступствы сёння? Войт Павільч:

— У першы год кампаніі ў нашых агратурыстычных кватэрах мы ўбачылі рост колькасці турыстаў на сорак адсоткаў. Жыхары адчулі гэта ў сваіх бюджэтах. З кожным годам у нас штораз лепшая інфраструктура, у тым ліку больш шырокая прапанова гатэляў. Праўда, аднак, што для таго, каб з'явіцца ў свядомасці турыстаў, трэба трохі часу і намаганняў, каб дрэнна не гаварылі. Перш за ўсё павінен быць у гміне парадак: каб было чыста і бяспечна і каб турысты мелі канікулы насычаныя мерапрыемствамі, якіх у нашых сёлах шмат.

Дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рээнт:

— Заўважаем, што з кожным годам на нашай купальскай ночы ўсё больш і больш турыстаў. Усе агракватэры ў гэты час заняты. Некаторыя турысты прыехалі ў гэтым годзе яшчэ раз спецыяльна на купальскае свята.

Са сцэны публіку забаўлялі «Цаглінкі» са Старога Ляўкова, «Арт-Пронар» з Нарвы і мясцовыя «Нараўчанкі». З захапленнем і бурнымі апладысментамі прынялі перапоўнены шчырасцю, адкрытасцю і непасрэднасцю жаночы народны фальклорны гурт «Бабіна лета» з Аранчыцкага сельскага дома фальклору. Яго сяброўкі нарадзіліся ў 1935-1947 гадах.



Манька Даўлінг

Назва — як яны кажуць — выдатна адлюстроўвае «сум і тугу па прайшоўшай маладосці, але таксама і спадзяванні звязаныя з будучыняй, успаміны пра каханне і одум над жаночым лёсам». Іх песні не толькі сентыментальнае задуменне, але таксама шмат гумару. Яны выконваюць песні на мясцовым дыялекце. Таццяна Пушко, лідарка калектыву, настаўніца-пенсіянерка ў размове з «Нівай» сказала:

— Мы тут не ўпершыню. Жанчыны з «Цаглінак» ужо як нашы родныя. Усе мы з вёскі. Наш калектыў у мінулым годзе адсвяткаваў сваё 25-годдзе. Некаторых з жанчын, якія спявалі з намі ад пачатку, ужо няма, прыйшлі маладзейшыя. Песень шукаем сярод жыхароў навакольных вёсак. Калісь і ў нас мы святкавалі купальскую ноч: спявалі купальскія песні, шукалі папараць-кветку, і як належыць — палілі кастры. Моладзь гуляла: танцавала і спявала да світання. На жаль, забаранілі, як паведамлялі, з-за пажарнай бяспекі.

Сяброўка калектыву пані Ніна ўспамінала:

— Быў такі звычай: як пара разам скакала праз агонь і іх злучаныя рукі падчас скачка не разлучыліся, гэта значыла, што будзе з іх вельмі добрая пара. Там былі таксама скачкі крыж на крыж, значыць, перасковалі праз агонь у той жа час з процілеглых напрамкаў з падуманымі раней жаданнямі.

Пані Валянціна дадала:

— Рэчкі ў нас блізка не было, так што не пускалі мы вянкоў. Мы іх проста вешалі на дрэвах. Пасля купальскай ночы ў тых, у каго ён звяў найхутчэй, год абяцаў быць не самым вясёлым.

З Ружан — гнязда адной з ліній Сапегаў, дзе ў 1644 годзе прынялі караля Уладзіслава IV, а да сёння стаяць руіны іх радавога палацавага комплексу — прыехаў, у сваю чаргу, упершыню на ноч Купалы калектыў «Ваколіца» з дванаццаці чалавек. Ён ішоў на чале карагода па вуліцах Нараўкі, затым з'явіўся ў амфітэатры ў касцюмах пашытых паводле партрэтаў і рэпрадукцый сямнаццатага стагоддзя. Адной з выступаючых у калектыве з'яўляецца дырэктарка Ружанскага цэнтра культуры і вольнага часу Ала Рошчанка:

— У нас таксама арганізуюцца купальскія ночы. Заўсёды прыходзіць шмат людзей. Ёсць русалкі, лішакі і, вядома, Купалінка з Купалам. Дзяўчыны таксама пускаюць вянкі па рацэ, у іх мы ставім запаленыя свечкі. Частуемся караваем. Наш хор быў заснаваны каля чатырох гадоў таму. Ён складаецца з бібліятэкараў, настаўнікаў — педагогаў у першую чаргу. Наогул, мы, галоўным чынам, спяваем беларускія народныя песні, часта а капэла.

Сярод жанчын у вянках, якія селі сярод публікі ў амфітэатры і сабраліся вакол яго, цяжка было не заўважыць Манькі Даўлінг (нарадзілася ў 1937 г.). Яе велізарны вянок з маляўнічых дзікіх кветак з адлегласці быў бачны. Дапамаглі ёй падрыхтаваць яго ў палатцы побач са сцэнай маладыя дзяўчаты, якія сплялі іх пад наглядам Кацярыны Бяляўскай з Гміннага цэнтра культуры і Галерэі імя Тамары Саланевіч. Манька Даўлінг з'яўляецца вядомай мастачкай. У 60-х гадах мінулага стагоддзя была студэнткай Варшаўскай акадэміі мастацтваў у класе майстра колеру Яна Цыбіса і якраз колер цяпер з'яўляецца важным элементам у яе творчасці. З 1970 г. яна пастаянна пражывае ў Вялікабрытаніі. Займалася так званым трохмерным жывапісам, які сёння вызначаецца як 3D. Першапачаткова стварала абстрактныя прасторы, рассветленыя светлавымі кропкамі. У цяперашні час яна стварае экспрэсіўныя партрэты, маляўнічыя кветкі і выдуманыя краявіды. Частка творчасці ахоплівае асацыяваныя з наіўным мастацтвам пейзажы польскай вёскі, якія характарызуюцца адсутнасцю перспектывы. Стварае таксама насценны жывапіс і галаграмы. Працы Манькі Даўлінг былі выстаўлены ў Лондане, Вашынгтоне, Монтэ-Карла, Гётэборгу і Варшаве. Яе працы таксама былі паказаны на адной з выстаў у галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.

— У мяне ёсць дом у Нараўцы, і я вельмі люблю купальскую ноч, — прызналася ў гутарцы з «Нівай». — У сябе, у Лондане, на такой маленькай рэчцы недалёка ад майго дома і я арганізую пусканне вянкоў, але не Яна. На Купалу заўсёды толькі сюды прыязджаю. Я не нарадзілася на гэтай тэрыторыі, але ў Паткове-Юзафове ў гміне Лосіцы, але гэта таксама Падляшша. Я ў 1970 годзе была запрошана ў Лондан сябрам майго бацькі, вядомым мастаком Феліксам Тапольскім, і там засталася. Шчыра кажучы, то я тады ўцякла ад свайго мужа. Мой цяперашні муж гэта англічанін і ў1994 годзе працаваў для Міністэрства сельскай гаспадаркі. У Польшчу прыехаў, каб навучыць палякаў пісаць прыкладанні. Ён зарабіў трохі грошай і проста купіў мы тут дом. Тут у мяне ёсць майстэрня значна большая чым у Лондане. І, калі я прыязджаю — малюю, малюю, малюю...

Спецыяльнай зоркай нараўчанскай купальскай ночы быў Беларускі музычны тэатр «Рада» з Гродна, які часта наведвае Беласточчыну, а забава працягвалася да позняй ночы.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# У глыбінцы Усходняй сцяны

У Саколку з'яўляюся перад сёмай гадзінай раніцы і да ад'езду аўтобуса ў напрамку Крушынян маю яшчэ некалькі дзясяткаў мінут. Тады ёсць час разглянуцца па наваколлі вакзала. Па наваколлі чыгуначнага вакзала, бо аўтобуснага ўжо няма. Яшчэ дзесяць гадоў таму стаяў не надта вялікі будынак яго, памерам у барак, з дзвюма білетнымі касамі і пачакальняй, у якой нават паўнавата народу бывала. Пасля каса працавала толькі ў канцы месяца, каб прадаваць месячныя аўтобусныя білеты, пасля і пачакальню сталі штораз больш закрываць, а нейкі час таму, неяк незаўважна мне, знеслі і зусім тую аўтобусную нерухомасць. Раней было чатыры пэкаэсаўскія прыпынкі каля тае нерухомасці, зараз астаўся толькі адзін, каля будынка чыгуначнага вакзала; маршруткі прыватнай лініі спыняюцца крыху далей.

На абшырным пляцы перад чыгуначным вакзалам сухі фантан, побач якога некалькі пустых вазонаў, у якіх прадугледжваліся кветкі. Недалёкі газетны кіёск ржавее. Стэнд каля прыпынку прыватнай аўтобуснай лініі, на якім раней быў план горада, зараз прадстаўляе сабою своеасаблівы від абстрактнай прасторавай 3D-карціны, размаляванай аблезлымі і адклейваючымія фарбамі. Падаюся ў кароткі раўнд па горадзе. Не надта далёка вакзала восевая сакольская галоўная вуліца, якая з боку Беластока называецца Беластоцкай, а з боку Гродна — Гродзенскай. Заглядаю ў касцёл св. Антонія — у ім народу значна больш чым на вакзалах; людзі больш заклапочаны браніраваннем лепшага месца ў лепшы свет, чым пагэтабаковымі падарожжамі. Вяртаюся на вакзал; са згаданага аўтобуснага прыпынка на курсіруючыя яшчэ аўтобусы сядаюць па два-тры пасажыры.

Аўтобус, што яшчэ не так даўно курсіраваў з раніцы цераз Бабікі ў Мінкоўцы, ужо выкрэслены з раскладу. У машыну ў напрамку Крушынян сядае пяцёра пасажыраў — столькі ж, колькі не так даўно адправілася ў Беласток...

Высаджваюся з аўтобуса на прыпынку Трэйглі. Тут помнік савецкаму генералу, які быў загінуў там семдзесят адзін год таму. Магчыма, што тым помнікам нейкія дзясяткі гадоў таму займалася школьная моладзь, зараз помнікам тым займаецца на свой лад прырода. Адпраўляюся ў бок Плебанова, як два ці тры гады таму, каб адтуль трапіць у схаваную ў лясах мясцовасць Халодныя Валокі; тады мне гэта не ўдалося...

Хаця людзі гавораць, што язык усюды давядзе, то ўсё ж такі трэба ўлічваць рэаліі, а яны ў нас такія, што наша тэрыторыя моцна ўжо абязлюдзела і спадзяванне на той „язык" няпэўнае. Вось і ў Плебанове, дзе я раней мог пагутарыць са спатканым чалавекам, на гэты раз мне такое не ўдалося. Але ж прызапасіўся я эскізам мясцовай лоцыі, узятым з інтэрнэтавага касмічнага здымка, і па гэтым эскізе пайшоў па лясных лабірынтах былой Крынскай пушчы. Лясныя жвіровачкі яшчэ там час ад часу езджаныя, яшчэ не зараслі напорыстай прыродай і паходка па іх, хаця гэта і моцна перасечаная мясцовасць, поўная ўзгоркаў, на якія ў чыстым полі можа і стамляльна было б паднімацца, тая паходка даволі лёгкая. Ды якія там карціны адкрываюцца перад наведвальнікам. Нашы лясы з'яўляюцца своеасаблівай мастацкай галерэяй, дзе мастаком сама прырода. Пра лісточкі, галінкі, ці цэлыя большыя або меншыя раслінкі згадваць было б лішне. Звярынкі там яшчэ не надта буйныя, бо з палеткаў бульбы ці іншага збожжа не збіраюць ураджаю ні дзікі, ні іншая дакучлівая звярына, як гэта дзеецца, напрыклад, на Гайнаўшчыне. Ды не толькі жывая прырода захапляе. На тамашніх дарогах можна пабачыць і незвычайныя карціны, намаляваныя даждком — гэта такія акварэлі, якія пакідаюць за сабою ручайкі ў каляінах дарог пасля лівню; сапраўды можна тымі монаколернымі ўзорамі палюбавацца не менш чым у самай мадэрнай мастацкай галерэі.

Хаця ў лясных лабірынтах Сакольшчыны паказальнікаў дарог наогул няма, усё ж такі часам і такі рарытэт там паказваецца. Вось даходжу да шашы з Крынак у напрамку Нетупы, а там акурат і паказальнік, што ў Халодныя Валокі адзін кіламетр. Ах, нарэшце магу звалачыцца ў тыя Валокі...

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з 1880-х гадоў паведамляў пра гэтую вёску нямнога: „Chłodnowłóki, *Podsoroczyno*, urocz., pow. sokólski, gm. Ostrów, 30 wiorst od Sokółki, 57 dziesięcin". Цяжка зараз здагадацца, адкуль узялося тое Падсарочына, але вёска мела таксама, бадай яшчэ адну назву — Калодныя Валокі, у якой нейкі пісар мог пазней



Фантан і вазоны перад сакольскім вакзалам

перайначыць прапісную літару. Сёння пісары, адукаваныя гадамі, памыляюцца, а што гаварыць пра колішніх, у якіх адукацыя не была так працяглай, як гэта маем сёння, і лёгка было паблытаць нагрызмоленую неспрактыкаванай рукою літару „К" з літарай „Х". Можа ў ранні час пісьменства не было гэта істотнае, але вось цяпер жа маем такія сітуацыі, калі нейкую пісараву вольнасць трэба выпраўляць шляхам судовага разбору. Можна было б спадзявацца, што ў іншай, чым алфавітная, сістэме запісу мовы, напрыклад іерагліфічнай, як у кітайцаў, такіх памылак не было б, але ж і там, калі б летапісец паставіў штрых крыху інакш, дык



Касцёл св. Антонія ў Саколцы

таксама атрымалася б *novum*, так як з тымі Халоднымі, Галоднымі ці Калоднымі Валокамі. Хто ведае, адкуль пайшла апошняя назва — можа там нехта валачыўбаранаваў раллю нейкімі разгалінастымі калодамі...

Вёсачка, у якой не больш дзесяці хат, падалася мне зусім пустою. Калі я скіраваўся з шашы ў дарогу ў яе напрамку, ад вёскі выехала легкавушка. Але калі я праходзіў тамашняй вуліцай, вузкай палявой дарогай, некалі падсыпанай жвірам, не пачуў ніякага водгаласу, нават ніякі сабака не азваўся. Бадай два панадворкі падкошаныя дачнай касілкай, іншыя ж і без гэтага. Каляіны дарогі ў напрамку Новай Грыбоўшчыны амаль ужо зараслі травою. Вёска сапраўды здаецца быць ужо халоднай, дзе выстыў ранейшы подых жыцця.

Колішні геаграфічны слоўнік згадваў і пра Грыбоўшчыну: „Grzybowszczyzna, Nowa i Stara, dwie wsi, pow. sokólski, gm. Ostrów, 25 wiorst od Sokółki, 377 dziesięcin". Тут ужо зямлі было значна больш, амаль у сем разоў. Ды і вёска Новая Грыбоўшчына, хаця не надта вялікая і толькі са жвіровай вуліцай, але выглядае вельмі задбанай, акуратнай, намнога інакш, чым суседнія Халодныя Валокі...

Тагачасны геаграфічны слоўнік даволі лаканічна пісаў пра Грыбоўшчыну, бо ж яшчэ да таго часу ніхто яе не праславіў; слава Грыбоўшчыны стала расці пяцьдзесят гадоў пазней і цяпер што і руш розныя даследчыкі намагаюцца разгадаць крыніцы тае грамадскае ўспышкі, якая там здарылася ў міжваенны час: што падагрэла тую крытычную масу людскіх страсцей да небывалага выбуху народнай рэлігійнасці... Цяпер амаль усё пасля тае гарачкі прастыла, уся тая радыяцыя канула ў Лету, пад „саркафагі", што забралі яе носьбітаў.

Сам „Новы Іерусалім", што за Лішчанамі, апусцеў і паволі прырода вяртае там сваё панаванне. Але каля Старой Грыбоўшчыны асталася царква, якую завадатару мясцовай незвычайнай рэлігійнай рэвалюцыі, Ільі Клімовічу, удалося пабудаваць. Зараз гэта філіяльная царква Востраўскага прыхода, якой нябесным заступнікам назначаны Іаан Хрысціцель. Магчыма, што сталася так таму, бо Ілья Клімовіч быў свайго роду „паслушнікам" Івана Кранштацкага. І на Яна, паводле юльянскага календара, адпраўляецца там святочнае набажэнства. Свята не толькі ў царкве, але, як гэта ў нашых вёсках прынялося, і перад царквою, дзе пры такой нагодзе абавязкова маюць быць *kolorowe jarmarki*. Праўда, ярмарка тая невялічкая, усяго былі сёлета два сталы з ярмарачнай драбязой — але ж былі! У царкоўку сабралася каля сямідзесяці душ самага рознага ўзросту, між царквою і могілкамі стаяла каля трыццаці легкавушак; іх рэгістрацыйныя ідэнтыфікатары падказвалі, што прыехалі святкаваць выхадцы-гараджане з нашчадкамі, якіх цягне на спрадвечную радзіму. Відаць і ў людзей ёсць той самы магніт, што і ў вугроў, які цягне апошніх у іхняе Саргасава мора...

А мяне пацягнула ў бок Паўднёвага Вострава, дзе на найбольш дакладнай карце пазначана дарога туды акурат ад грыбоўскай царквы. Але ж і з тымі тапаграфічнымі картамі справы выглядаюць не лепш, чым з клінапісам ці піктаграфіяй. Хутка, замяж у Паўднёвым Востраве, апынуўся я ў зусім незнаёмым мне месцы. Падышоўшы крыху далей, передa мною паказалася знаёмая гуранская вуліца. Жыццё пракладвае новыя дарогі, за якімі не паспяваюць картаграфічныя штрыхі...

На сакольскім пэкаэсаўскім прыпынку красавалася абвестка, што акурат з дня 7 ліпеня спыняецца курсіраванне аўтобусаў у Гураны. Магчыма, што сталася гэта беручы пад увагу гібеючы лік пасажыраў гэтага роду транспарту, а магчыма, што з-за якасці дарожнага насцілу. Калі па шырокай жвіроўцы з Гуран у бок Новага Вострава бравурна праехаў грузавік, нарабіў ён на ўхабінах ці не менш ломату як славутыя ерыхонскія трубы.

Геаграфічны слоўнік: „Ostrów, Nowy, Północny i Południowy, trzy wsi, pow. sokólski, gm. Ostrów, 21 w. od Sokółki. O. Nowy 59 domów, 307 mieszkańców, zarząd gminy, 558 dziesięcin; O. Północny 73 dm., 402 mk., cerkiew, 706 dz. włośc. i 87 cerk.; O. Południowy 759 dz.". Хаця няма ў гэтым апісанні ліку жыхароў апошніх з названых мясцовасцей, можна ўсё ж такі дадумвацца, што ўсіх іх у трох названых вёсках было значна больш за тысячу. Сёння гэты лік напэўна больш мінорны.

Калі Паўднёвы Востраў „шмыгнуў" быў мне з майго маршруту, тады я вырашыў, што гэта нейкі *omen*, і рашыў абысці вёску па загуменнай дарозе. І вось пры гэтай загуменнай дарозе стаіць візітка XXI стагоддзя — ветравы электрагенератар. Здалёк не чуваць ягонага шуму, але калі падысці бліжэй, той шум набірае магутнасці. Каля збудавання старыя падмуркі ды гурба камянёў. А навокал вёскі парэчкавыя плантацыі...

У пачатку Паўночнага Вострава, упрытык з выводным крыжом, старая вярба. Наогул, калі згадваецца пра дрэвы, найчасцей мова пра векавыя дубы, пра звязаныя з імі легенды. Праўда, і вярба таксама займае не апошняе месца ў народным фальклоры, які ў вярбовых дуплах пасяляе ўсялякую нячысцую сілу. У востраўскай вярбы дупло агромністае — дыяметрам больш за метр; у ім можна танцаваць бальныя танцы. Магчыма, што ў непагадзь там такі шабас ведзьмаў і іншых нячысцікаў, з якім і ветраку не раўняцца...

На вуліцы сядзела чацвёра вяскоўцаў. Запытаў я іх, што было на падмурках у тым месцы каля неадлеглага Паўднёвага Вострава, дзе зараз стаў новы вятрак. Спачатку адказвалі мне, што нічога там не было, што мелі там нешта паставіць і навазілі вапны, якая скамянела, але ўсё ж такі ўдалося мне выкрасаць ад іх інфармацыю, што аднак стаяў там будынак эскаэраўскага склада.

Такая людская памяць, з якой паволі знікаюць не зусім даўнія падзеі, а што ўжо гаварыць пра нейкія даўнія Валокі, якія яны былі. Ды і тэхніка часам падводзіць; мой фотаапарат запісваў на лічбавую карту сваёй новай памяці абразкі з маёй прыродна-краязнаўчай галерэі; запісваў іх бінарным алфавітам, а атрымаліся нейкія іерагліфы, якіх і сам той апарат не змог прачытаць. Таму на здымках толькі антрапагенная Саколка.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Беларускі фэст у Чаромсе

Арганізаванне беларускіх фэстаў у Чаромсе належыць да традыцыі. Сёлета фэст адбыўся 12 ліпеня ў дзень свсв. апосталаў Пятра і Паўла. Надвор'е для імпрэзы пад адкрытым небам паспрыяла. Пасля трыццаціградуснай спёкі пасля поўдня адчуваўся лёгкі подых асвяжальнага ветрыку.

На пляцоўцы побач Гміннага асяродка культуры купцы з ранку ставілі латкі з цацкамі, марожаным і півам. Былі падрыхтаваны сцэна для артыстаў ды месцы для публікі. Гмінны цэнтр культуры сёлета паклапаціўся пра рэкламу. Абвесткі аб фэсце былі распаўсюджаны ў навакольных вёсках, затым дырэктар ГАК змясціла запрашэнне на фейсбуку. Публіка не падвяла. Перад пачаткам канцэрта ў 18 гадзін амаль усе сядзячыя месцы перад сцэнай былі заняты. Частка прыселася пад парасонамі пры піве. Іншыя проста стаялі за агароджай на тратуары. Цырымонію адкрыцця фэсту здзейснілі войт Міхал Врублеўскі і намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень.

Кіраўнік самаўрада, як належала гаспадару і суарганізатару мерапрыемства, прывітаў гасцей, затым сказаў:

— Няма, пэўна, чалавека, які не любіць музыкі і песні. Асабліва тых з народнай скарбніцы, як і тутэйшых, дарагіх кожнаму жыхару нашай гміны. Няхай сённяшні фэст паспрыяе вясёлай забаве і міламу адпачынку. Пры нагодзе хачу падзякаваць жыхарам гміны за дбайны догляд сядзіб. Гэтая візітная картачка няхай будзе прыманкай для напліву турыстаў у нашу малую Айчыну.

— Хачу — шчыра падзякаваць Гміннаму асяродку культуры, — сказаў намеснік старшыні ГП Васіль Сегень, — як і Гміннай управе за дапамогу ў арганізаванні народнага фэсту. Сёння адзначаем дзень святых апосталаў Пятра і Паўла. У гэты дзень хочам парадаваць жыхароў Чаромхаўскай гміны добрай музыкай і песняй...

Палачку вядучага перайме Юліта Сушч. Пасля прэзентацыі гуртоў, а былі гэта жаночая група з вёскі



„Белавежская цявінка"

Чаромха пад кіраўніцтвам Яўгеніі Кердалевіч, „Лайланд" з Беластока — кіраўнік Багдан Астапчук, „Чыжавяне" з Чыжоў — кіраўнік Юры Ганевіч, жаночы дуэт Ірэна Гуль і Валянціна Харытанюк ды вакальная група „Росы" з вясковага дома культуры ў Рыбалах — кіраўнік Лідзія Мартынюк і „Белы птах" з Мінска — кіраўнік Вольга Жашкевіч. Два гурты з Камянецкага раёна „Белавежская цявінка" з пасёлка Белавежскі і „Спадчына" з сяла Навасёлкі запрасіла дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк у рамках памежнага супрацоўніцтва.

Канцэрт пачаўся з выступу вакальна-танцавальнага калектыву „Белавежская цявінка" песняй „Чаму ж мне не пець". Гурт упершыню гасцяваў на чаромхаўскай сцэне. Пасля ўперамешку з танцамі выконваліся добравядомыя публіцы беларускія і ўкраінскія песні — „Чырвона рута", „Цячэ вода каламутна" ды іншыя. Выступ спадабаўся. Сведчылі аб гэтым бурныя апладысменты пасля кожнага нумара. Дзіцячы гурт „Спадчына" запрэзэнтаваў багаты мантаж беларускай песні і танцаў. Асабліва спадабалася песня „Яліначка". Немагчыма пералічыць усе нумары трохгадзіннага канцэрта. Змяняліся калектывы на сцэне быццам кадры шматсерыйнага фільма. Змяняўся і рэпертуар. Пеўчая група з вёскі Чаромхі, напрыклад, выканала чатыры песні — два вядомыя гіты: „У суботу Янка" і „Касіў Ясь канюшыну", затым з мясцовага фальклору „У нас свадьба будэ" і „Самагонка". За гэтую апошнюю атрымалі гучныя воплескі.

„Лайланд" праспяваў „І туды гара, і сюды гара", „Добры хлопцы, малойцы"; „Чыжавяне" — „Ляцеў воран", „Ярмарка"; дуэт з Рыбалаў — „Там у полі на гурбочку"; „Росы" — „А я чарнява", „Ой ты Галю".

Даволі багаты і разнавідны рэпертуар прэзентавалі госці з Мінска. „Белы птах" раней выступаў на чаромхаўскім фэсце. Як раней, так і зараз заваражыў публіку. Звонкія галасы, бадзёрая музыка і нацыянальныя каляровыя касцюмы надоўга застануцца ў памяці гледачоў. Да зроку несліся народныя напевы мінскіх артыстаў: „Каліна, маліна", „Не бойся дзяўчына", „На вуліцы грымата", „У саду гуляла" ды іншыя. А калі на развітанне прагучала „Чарка на пасашок", дык пачулася авацыйнае „біс". У адказ на добразычлівы прыём калектыў выканаў „Беларусь — імя святое". Гэтым своеасаблівым гімнам завяршыўся беларускі народны фэст у Чаромсе. За цудоўна праведзены адпачынак у дзень свсв. апосталаў Пятра і Паўла шчырую падзяку арганізатарам перадае (не памылюся калі скажу — ад шматлікай публікі) ніжэйпадпісаны.

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА



# http://freelance.baj.by

Адной з рэалій журналісцкага жыцця ў Беларусі з'яўляецца пакаранне лукашэнкаўскімі ўладамі людзей, якія распаўсюджваюць па свеце інфармацыю, але пры гэтым не ўваходзяць у штат таго ці іншага СМІ. За так званы незаконны выраб і распаўсюд інфармацыі ўжо аштрафаваныя 24 журналісты-фрылансеры — такія звесткі падае Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ). Улады не бянтэжыць, што гэта звычайнае таптанне свабоды слова, якую, акрамя разнастайных міжнародных дагавораў, падпісаных Беларуссю, яшчэ і гарантуе яе ўласная Канстытуцыя. Яшчэ не было аніводнага суда, які б адхіліў абвінавачванні, высунутыя супраць журналіста-фрылансера за яго публікацыі.

Але нягледзячы на такі стан спраў, журналісцкая супольнасць неяк імкнецца змагацца з пераследам фрылансераў і фактычнай забаронай ім распаўсюджваць інфармацыю. Так, у рамках БАЖ праходзіць кампанія „За фрыланс".

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары яго адрас http://freelance.baj.by, то перад яго вачыма адкрыецца блакітнае выяўленне, якое, пэўна, сімвалізуе неабмежаваную свабоду слова і творчасці. І галоўным паведамленнем, зараз размешчаным на галоўнай старонцы, з'яўляецца заклік БАЖа спыніць пераслед журналістаў-фрылансераў. „Беларуская асацыяцыя журналістаў выказвае рашучы пратэст у сувязі з узмацненнем адміністрацыйнага пераследу журналістаў-фрылансераў, матэрыялы якіх з'яўляюцца ў замежных СМІ. (...) Звяртаем увагу, што ў сённяшнім глабальным свеце пераслед журналістаў за з'яўленне іх матэрыялаў у замежных СМІ парушае не толькі канстытуцыйныя і прафесійныя правы журналістаў, але і правы ўсіх грамадзян на атрыманне і распаўсюд інфармацыі", — распавядаецца ў адозве да ўсіх беларускіх праваахоўных органаў, судоў і пракуратуры.

Варта адзначыць, што сайт „За фрыланс" існаваў ужо два гады, але толькі сёлета БАЖ вырашыла абнавіць яго выгляд. „Гэтым разам мы цалкам змянілі дызайн і праграмную платформу партала. Цяпер карыстацца сайтам стала не толькі зручней, але і хутчэй. Сайт працуе на дадзены момант у тэставым рэжыме, таму паведамляйце нам усе заўвагі да працы сайта", — распавядаюць яго ўладальнікі.

Даны сайт з'яўляецца не толькі адказам на ганебны пераслед журналістаў-фрылансераў, але і інструментам дапамогі ім у пошуках працы. Таму другая яго назва — „Месца сустрэчы фрылансераў і рэдактараў". Гэта ўказваецца ў левым верхнім вугле цэлага выяўлення. Такія варункі прадугледжваюць больш складаны шлях да знаёмства з усімі рубрыкамі сайта. Для гэтага спачатку трэба займець на ім уласны акаўнт, што дасць магчымасць пазнаёміцца з прапановамі рэдакцый да патэнцыйных пазаштатных супрацоўнікаў, а таксама размесціць на сайце інфармацыю пра сябе і свае здольнасці. Але гэта яшчэ не ўсё.

„Паслугі ды сервісы рэсурса Freelance.baj.by накіраваныя ў першую чаргу на прафесійнае развіццё сяброў ГА „БАЖ". Таму ўмовай рэгістрацыі Карыстальніка ў якасці Фрылансера з'яўляецца сяброўства ў дадзенай арганізацыі. Для Наведнікаў, якія на момант рэгістрацыі не маюць сяброўства ў БАЖ, рэсурс прапануе двухмесячны тэрмін карыстання паслугамі з далейшым прыпыненнем функцыянавання акаўнта да моманту ўступлення ў арганізацыю", — строга паведамляецца ў артыкуле „Правілы карыстання рэсурсам Freelance.baj.by" на старонцы „Навіны і артыкулы".

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Беларускі лекар, публіцыст, хадэк

# 70 гадоў з дня гібелі Станіслава Грынкевіча

Беларускі грамадскі і палітычны дзеяч Станіслаў Грынкевіч нарадзіўся 2 лістапада 1902 г. у вёсцы Новы Двор на Сакольшчыне. Да беларускага нацыянальнага руху далучыўся вельмі рана, калі вучыўся ў Гродзенскай гімназіі. Тады жыў ён у свайго дзядзькі, ксяндза і беларускага асветніка Францішка Грынкевіча, арганізатара Гродзенскага гуртка беларускай моладзі (дзейнічаў у 1909-1914 гг.), які ладзіў беларускія аматарскія спектаклі. Пазней вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта. У 1920 гг. навучаўся ў Чэхаславацкім. Закончыў Пазнанскі ўніверсітэт па спецыяльнасці псіханеўралогія і гігіена. Працаваў у клініках Познані, на Беласточчыне — у лякарні вар'ятаў у Харошчы. З 1938 г. жыў у Вільні.

Станіслаў Грынкевіч стаў адным з лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ў Заходняй Беларусі. Аўтар шматлікіх артыкулаў і брашур па медыцыне на беларускай і польскай мовах. Як лекар апублікаваў разам са сваёй жонкай Ядвігай Грынкевіч тры выпускі папулярнай навукова-практычнай манаграфіі „Рады хворым і здаровым" (ч. I-III, Вільня, 1935-1939). У 1936 г. яго брашура „Асвета" была канфіскавана паліцыяй, а сам аўтар аштрафаваны і на два тыдні зняволены.

Пра шырыню светапогляду, навукова-асветнага, літаратурнага і тэатразнаўчага прафесіяналізму Станіслава Грынкевіча найлепш сведчаць яго кніжкі: „Аб тэатры" (1927), п'еса „Жанімства па радыё" (1927), „Асвета" (у кніжцы ёсць раздзел „Народны тэатр", 1936), кніга нарысаў „У братоў украінцаў" (1936), навукова-папулярныя брашуры „Народ" (1927), „Алкагалізм", аповесць „Царква. Помства. Вязніца" (1928) і „Арлянё" (1927), арыгінальныя артыкулы „Узгадаванне характару" (1928), „Культура і задачы нацыянальнае працы" (1935), „Аб праве на Бацькаўшчыну" (1936), „Псіхааналіз і праблемы — літаратурныя і грамадскія" (1936), „Гігіена псіхічная як праблема асноўных адносінаў да жыцця" (1937), „Трагічны крызіс" (1939) і інш. У псіхіятрыі Грынкевіч быў сярод першых у беларускай і польскай навуцы, хто пазнаёміў грамадскасць з сістэмай псіхааналізу Зігмунда Фрэйда і Карла Юнга, з прэтэнзіямі гэтай плыні ў галіне літаратуразнаўства і сацыялогіі. Быў вядучым публіцыстам, супрацоўнікам газеты „Беларуская крыніца", часопісаў „Калоссе", „Студэнцкая думка, „Шляхам моладзі", „Хрысціянская думка", іншых беларускіх выданняў Заходняй Беларусі ў складзе міжваеннай Польшчы і ў гады Другой сусветнай вайны. Вывучаў тэалогію, пераклаў на беларускую мову кнігу каталіцкага аскета і містыка Тамаша Кемпійскага „Следам за Хрыстусам" (1934). У грамадскім Беларускім інстытуце гаспадаркі і культуры (1926-1936), верагодна, быў інструктарам і арганізатарам тэатральнага руху. Пра гэта сведчыць яго кніга „Аб тэатры". Супрацоўнічаў з лідарам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Адамам Станкевічам, у 1931-1936 гг. выбіраўся віцэ-старшынёй гэтай партыі.

У 1939 г. Грынкевіч быў арыштаваны карнымі органамі савецкай улады, але яму ўдалося ўцячы з цягніка, якім яго перавозілі. У час Другой сусветнай вайны — дзеяч канспірацыйнага падпольнага Беларускага народнага аб'яднання, быў сувязным з польскім падполлем. Летам 1944 г. арыштаваны органамі НКВД. Быў перавезены ў Мінск, пасля ў Магілёў. Паводле адных звестак 25 ліпеня 1945 г. расстраляны ў Магілёве, паводле іншых — закатаваны ці памёр у мінскай вязніцы ў 1945 ці 1946 годзе.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Лета ў Крынках

Штогадовае культурнае мерапрыемства ў Крынках, прымеркаванае да найдаўжэйшага дня ў годзе і самай кароткай ночы, заўсёды непаўторнае. Праходзіць яно пад рознымі назвамі, але ніколі як Свята Купалы. Чаму? Мабыць, гэта не даспадобы мясцовым кіраўнікам. Свята вады, Летні канцэрт цяпер пераўтварыўся ў Сямейны пікнік. Вельмі модна і карэктна. Такія пікнікі, папулярызаваныя ў асноўным масмедыямі рэлігійнага характару, праходзілі апошнім часам у большасці гарадоў нашага ваяводства.

Крынскі пікнік адбыўся без удзелу святароў, але затое з вялікай колькасцю дзяцей і бацькоў. Здаецца, так і быць павінна. Шмат цікавага падрыхтавала ім арганізатарка пікніка дырэктар Крынскага дома культуры Альжбета Чарэмха. Міжпакаленневыя мастацкія майстар-класы ўдала правяла Цэліна Бах-Шчавінская. Не бракавала ахвотных, каб спрабаваць сваіх сіл у спартыўных спаборніцтвах. Добра пасмяяліся ўдзельнікі і гледачы сямейных скокаў у мяшках. Некаторыя ў несямейным стане ў такім мяшку прабавалі нават знайсці сваё сямейнае шчасце. Дзеткам асабліва спадабаліся цыркавыя майстар-класы, а ўдакладняючы — хадзьба па канаце і жанглёрка. Салодкія ўзнагароды ўсім канкурсантам падрыхтавала старшыня Гміннай камісіі вырашэння алкагольных праблем Люцына Юркевіч. Менавіта гэтая камісія праводзіла тут сваю, сямейную, прафілактычную праграму.

Вясёлая атмасфера панавала таксама ў час спецыяльна зладжанага з гэтай нагоды канцэрта. Удзельніцы калектыву «Экзіт» спявалі, між іншым, пра так папулярную сёння неахвоту ісці замуж.

— Калі даражыце сям'ёй, не слухайце таго, што мы вам спяваем, — перасцерагала публіку дырэктар дома культуры. Як заўсёды сваім музычным талентам падзяліліся з сабранымі падапечныя гродзенскіх музычных інструктарак Ліліяны Жылінскай і Інесы Кур'янавай. Спадарыня Чарэмха ўжо традыцыйна занялася сатырычнай праграмай, да ўдзелу ў якой заахвоціла мясцовую моладзь. Да танцаў падыгрывалі і спявалі сур'ёзныя мужчыны з крынскіх «Лотасаў», не забракла таксама беларускага акцэнту — дзяцей з «Заранкі». У гэты раз апрача традыцыйных песень у іх рэпертуары апынуўся карагод. Яго пераказала ім Люба Навумовіч з Крынак. Гэта адзіны карагод, які здолела яна запамятаць з дзяцінства, праведзенага ў родных Азяранах-Вялікіх. Спадарыня Люба — прыхільніца беларускага слова, асабліва рада бачыць як зберагаецца мясцовая традыцыя маладым пакаленнем. Мабыць, праграма «Заранкі» была дастаткова цікавай, таму што зараз пасля выступлення ахвоту далучыцца да калектыву выявіла чарговая дзяўчынка.

Сямейны пікнік — першае мерапрыемства крынскага культурнага лета.

Як выявіла дырэктар Альжбета Чарэмха, прадбачыцца яно надта гарачае. Дзякаваць Богу, паявіліся ўжо памочнікі — дзве новыя працаўніцы — любіцелька мясцовай гісторыі, выпускніца супрасльскага мастацкага ліцэя Цэліна Бах-Шчавінская і былая крынская бібліятэкарка, таксама выпускніца гэтага ж ліцэя Люцына Юркевіч.

У планах, між іншым, цыкл летніх канцэртаў, да ўдзелу ў якіх запрошана дзіцячая «Заранка» і апошнія вясковыя музыканты «Капэлы з-пад Крынак». Пачалася таксама апрацоўка турыстычнай карты Крынак.

— Ёсць шмат карт Сакольскага павета, якія выдавала, між іншым, мясцовая дзелавая група «Татарскі шлях». Калі ідзе пра Крынкі, такога выбару няма, — кажа спадарыня дырэктар.

Адбудзецца і даклад у пленэры пра найдаўнейшую гісторыю Крынак, рыхтаваны спадарыняй Шчавінскай. Крынскія дзеткі змогуць удзельнічаць у мастацкіх і спартыўных занятках у будынку дома культуры і на мясцовай спартыўнай пляцоўцы. На канец ліпеня запланаваны Дні Крынак — Вечар чатырох культур. У гэтым годзе беларускую супольнасць запрэзентуюць дзеткі з «Заранкі» і беластоцкі «Гай».

Рыхтуюцца таксама культурныя сюрпрызы, пра якія паінфармуем нашых чытачоў.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# „Прымакі" наведалі Віцебскую вобласць

Вядомы ансамбль з Беласточчыны даў канцэрт у мястэчку Навасёлкі, што на Пастаўшчыне. Каб паслухаць канцэрт гэтага гурта, у Навасёлкі з'ехаліся і жыхары суседніх раёнаў — Глыбоцкага, Шаркоўшчынскага і Докшыцкага, былі нават і госці з Расеі.

Па словах кіраўніка гурта Юркі Астапчука, свой рэпертуар яны збіраюць па ўсім свеце і раяцца з народам наконт сваіх песень. Да таго ж яны ніколі не спяваюць пад фанаграму, толькі ўжывую.

— Заўсёды спяваем ужывую, таму рэпетыцыі робім перад выступам, таму рыхтуем мікрафоны, каб для людзей усё было ясна. Часам пытаюцца: «Як яны так спяваюць без фанаграмы?» Не верась, але хай прыходзяць да нас да калектыву — паверась!



Як кажа Юрка Астапчук, у Беларусі яны сябе пачуваюць, як у роднай хаце. А з Паставамі звязаны яго лёс. Ён некалькі год таму зрабіў у гэтым мястэчку прапанову



сваёй каханай Багуславе, купіўшы там ёй у падарунак залаты ключык „ад свайго сэрца"

**Таццяна Смоткіна, Беларускае Радыё Рацыя**

# Адгаданка

1. в'етнамская грашовая адзінка, 2. цэнтр рэлігійнага культу на рацэ Ганг у Індыі, 3. палітычны дзеяч крайне левых поглядаў, 4. велізарны вадаём, 5. між Браціславай і Бялградам, 6. прамежак часу працы, у прынцыпе каля траціны сутак, 7. рэчыва для мыцця, можа быць туалетнае, 8. жыхарка Сеула, 9. горад на поўначы Малдовы, 10. двухкрылае насякомае, лічынкі якога паразітуюць у целе жывёлы, са... светлай часткай сутак 11. печ для выплаўкі чыгуну з жалезнай руды.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 27 нумара**

Арыя, ас, візір, ёд, Інд, квас, Кіраў, кісць, масіў, юнак.

Рашэнне: **І даяркі, і свінаркі ў нас заўсёды маюць скваркі**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 26.07 — 01.08

**(22.03. — 20.04.)** Варта выстартаваць з новымі задумамі на працы, будуць нагоды для добрых інвестыцый, чэрпання прыбыткаў ад даўніх старанняў. Хаця 25-27.07. магчымыя сямейныя турботы. Можаш шмат атрымаць ад Шаляў, а Стралец дадасць табе крылаў.

**(21.04. — 21.05.)** 25-27.07. паявяцца сур'ёзныя справы для вырашэння, можа ва ўстановах ці датычныя старых канфліктаў; добра было б папрасіць дапамогу. Добра падрыхтуйся, пакуль возьмешся за вырашэнні. Казярог змабілізуе цябе да дзеяння. Прафесійныя канфлікты могуць разгарэцца 31 ліпеня.

**(22.05. — 22.06.)** Найлепшы момант на паездку ў адпачынак. Мілыя сустрэчы ў сям'і, не адмаўляйся ад спатканняў. Многа зычлівых асоб будзе цябе падтрымліваць і ў цябе верыць — не падвядзі іх. Развяжуцца працяглыя справы. Але ў фінансах некаторыя турботы могуць аказацца цяжэйшымі, чым ты думаў.

**(23.06. — 23.07.)** 26, 27.07. магчымыя праблемы ў адносінах. 30-31.07. не паддайся намовам няшчырых людзей. Калі парвеш кантакты з тымі, хто цябе ў мінулым падвёў ці выкарыстаў, не будзе гэта кепскім — прынамсі зробіш прастору на новыя сапраўдныя сяброўствы. У пары спакайней. На працы ты творчы і задумлівы, вырашэнне нават вельмі складаных спраў не павінна быць для цябе праблемай — спрые табе Сонца і ваяўнічы Марс.

**(24.07. — 23.08.)** Вельмі пільнуйся, што каму гаворыш; пляткарскую натуру пакажа асоба, па якой ты гэтага ніколі б не спадзяваўся. Нават без кепскіх намераў можа яна табе зашкодзіць! Калі хтосьці чакае ад цябе абяцанняў, змаўчы, маеш час на дэкларацыі. Паправіцца тваё здароўе і будзеш вельмі энергічны. 26-30.07. асцерагайся нячыстай гульні, бо моцна гэтым паплацішся; хтось схоча цябе падмануць або здрадзіць.

**(24.08. — 23.09.)** Прыемнасці і адкрыццё на новыя магчымасці. І ў фінансах паправа, і ў сэрцы вясна. Але трымайся за кашалёк, не будзь лішне шчодрым, асабліва сярод сямейнікаў. Не пераналтужвайся фізічна. Лепш цяпер будзь на працы, бо чакае цябе павышэнне, адпачынак можаш перакласці на позняе лета або пачатак восені.

**24.09. — 23.10.)** Пакуль не пачынай дзеянняў, якія вяжуцца з вялікай рызыкай. Пакуль ты ў ненайлепшай форме, але не ашчаджайся спецыяльна, не спавальняй тэмпу, рабі ўсё пацíху. Праца прынясе табе многа задавальнення, прасунеш справы напераД (хаця некаторыя асобы будуць працівіцца). Вельмі пільнуй кашалька і крэдытных картак.

**(24.10. — 22.11.)** Увядзі ў сваё жыццё новыя навыкі, захапляльнае хобі. Добры час на дыеты — ачышчальныя і для пахудзення. У фінансах магчымае замяшанне — паявяцца новыя нагоды, але хатні бюджэт з'ядуць непрадбачаныя выдаткі. Пакуль будзеш што-небудзь рабіць у фінансах, усё абдумай, бо можаш шмат здабыць, але і ўсё страціць; слухай інтуіцыі, а не малавядомых асоб, бо падвядуць цябе па поўнай лініі. 31.07. могуць выявіцца справы, аб якіх ты не хацеў бы ведаць.

**(23.11. — 22.12.)** Паладзіш свае сардэчныя справы, адкрыешся на свет, убачыш іншых людзей. Але асцерагайся нейкай спелай жанчыны, якую часта бачыш, якая з прыемнасцю можа табе зрабіць шкоду. Варушыся, шпацыруй. Сходзі ўрэшце да дантыста! На працы будзь вельмі пільным і руплівым.

**(23.12. — 20.01.)** Вельмі дбай аб сваіго партнёра, асабліва 25-28.07., каб не адчуў сябе прызабытым і марудлівым. 25-26.07. афармляй нейкую сур'ёзную справу ва ўстанове. Сходзі да лекара — мабыць, спатрэбіцца табе акуліст. Шмат здабудзеш на кантакце з Вадалеем. А Бык пакажа тое, чаго ты яшчэ не ўбачыў. На працы маеш вакол сябе людзей зычлівых, гатовых да дапамогі і кааперацыі.

**(21.01. — 19.02.)** У сардэчных справах не бойся дэкларацый і сур'ёзных планаў. Хаця нават мёртвыя рэчы могуць цябе не слухацца. 25-27.07. абсалютна не спрачайся. 31.07. адкрыюцца табе вочы на тое, чаго дагэтуль не хацеў ты ўбачыць у людзях. Звычайна ты аптыміст і не раздумваеш над тым, што і колькі для цябе хтосьці робіць. Можа, варта быць больш крытычным? У адносінах да некаторых асоб ты лішне паблажлівы. Не пазычай.

**(20.02. — 21.03.)** 25-27.07. хтосьці зайздросны выступіць супраць цябе. Вырашыш нейкія працяглыя спрэчкі. Размаўляй, абмяркоўвай справы і ўсе сумненні са сваёй другой паловай. Рыба народжаная пасля 13.03. няхай пракансультуе з лекарам сваё дыханне. Добры час пашукаць сабе новую працу. Нечаканую падтрымку атрымаеш ад Вадалея. Пільнуй рахункаў і лепш ашчаджай. Не рызыкуй у кантактах з Шалямі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1000 egz.

Марыя Сашка

# Аднойчы ў Венецыі (ч. IV)

* * *

Яны знялі боты, п-я-с-о-к цёплы-цёпленькі... — Аляві, знаеш, што мне адразу прыйшло ў галаву? Тут праходзяць міжнародныя кінафестывалі... Быў калісь такі савецкі фільм, пра каханне, пра рэвалюцыю, пра вайну...

Ідзе, як мы цяпер з табою, па пяску ля мора, пара закаханая: чырвоная жаўнерка і белы афіцэр, прыгожыя, маладыя... Артысты былі там цудоўнай красы: Ізольда Ізвіцкая і Стрыжэнаў, як ты — Алег... І ён высокі, як ты, Аляві, бялесы, з маленькай бародкай, і твая фігура, т-в-а-е валасы хоць каротшыя... Твая сінь-сінява вачэй. І любоў у іх была вялікая, Аляві, і вайна тут жа, побач, страшная, са смерцю, і яны па розных яе баках-старанах!..

— Я помню-знаю гэты фільм, Даніэль, гэта «Сорак першы», і рэжысёра памятаю: Грыгорый Чухрай, які паставіў другое цуда-экран «Баладу пра салдата»... Помніш, Даніэль, той першы фільм далей? Дзяўчына сцеражэ афіцэра з вінтоўкай, ідуць дні... Прыходзіць каханне, што тут два палітычныя лагеры? Л-ю-б-о-ў!.. Бура, шторм на моры, усё гудзе-бесіцца, маланкі, грамы, здаецца — канец свету!.. Даніэль, памятаеш, афіцэр робіць тое, што я цяпер зраблю — бярэ дзяўчыну на рукі! Я — узяў! Цалуе — і я цалую! Яны не перстаюць цалавацца — і мы!.. Даніэль, пабач, глянь, у нас як і ў іх — нейкі шалаш-хацінка побач; глянь — дзверы адкрыты, і мы адны тут — які і яны былі!..

— Даніэль, я прынёс цябе, кветка ты мая пахучая, дзе ж ты такой вырасла? Рукі твае, грудзі, валасы, а твар-ліцо! Табе гаварылі — не зямлю-археалогію капаць, а іграць Анну Карэніну ці Наташу Растову, быць табе — Одры Хепберн — Сафі Ларэн, Ромі Шнайдар, Вів'ен Лі ці Мэрылін Манро! Зорка ты мая ранішняя!.. Кахаю я цябе з дня першага, Даніэль, вось ударыла мяне токам мая з табой сустрэча, яшчэ ў міланскім экспрэсе! Я цябе знайду — вывезу са ўсіх Францыяў і Парыжаў, украду — калі мне цябе не аддадуць тваё блізкія!..

— Ай-Ляў-Ю, ці я інакш? Галавешка ты мая пшанічная! Мне ж цябе вываражылі! Ах, праўдачкі, адкуль табе знаць-ведаць?.. Мы з табой тут, Аляві, с-ё-н-н-я-ш-н-і-я на пляжы! Не з кіно; а яны, тамтыя, успомні — трагічна канчаюць!.. Помніш, нечакана з'явілася лодка-карабель, які мог іх ўратаваць; афіцэр рвануў, на радасцях, баяўся — адплыве карабель, не пачуюць! Пабег, крычаў, клікаў помачы! Н-е ў-с-п-е-ў, ой — як НЕ ўспеў — сказаць дзяўчыне, што за помачу бяжыць д-л-я а-б-о-і-х! — як жа без к-а-х-а-н-а-й? Няўжо с-а-м? Можна такое сказаць пра кахаючае сэрца? Толькі ж што былі р-а-з-а-м, м-і-л-а-в-а-л-і-с-я! І што — можна яму закінуць, што ён спасае толькі с-я-б-е? Яе к-і-д-а-е? Яна яго НЕ зразумела, ён НЕ дагаварыў! Рашэнне было ў-р-а-з, у секунду — крычаць, бо караблік адплыве, не будзе ратунку!.. Ён крычыць: сюды плывіце! Яна пачула — ч-а-м-у?! — па мяне плывіце! — пачула? Здалося? Ці так было сапраўды?.. А караблік то быў «б-е-л-ы»!.. Яна ў яго выстраліла, ага — уцякаеш? Ад мяне, ад любові! Здрадзіў?.. З-а-б-і-л-а!.. Ён падае, штось хоча яшчэ сказаць!.. Дзяўчына з-а-б-і-л-а сваё першае К-А-Х-А-Н-Н-Е! Пачатак і канец усяго на свеце!.. Хрыстос сказаў: «Новую Запаведзь даю вам, каб вы любілі адзін другога!». Вайна, вінтоўка, смерць, для Госпада н-я-м-а месца!.. Астаўся плач, рыданне, з м-ё-р-т-в-а-й любоўю на руках, грудзі яе як мора — гудзяць ад болю!.. НЕ дагаварыў афіцэр, жаўнерка-жанчына, якой любіць-кахаць — НЕ вяваць — НЕ даслухала! (ой, як людзі не ўмеюць с-л-у-х-а-ц-ь сябе ўзаемна, не ўмеюць, спяшаюць сваё «я» выказаць!), жаўнерка сваё мілаванне разбіла — з-за спешкі — с-м-е-р-ц-ь паклікала!.. Сорак першага на вайне забіла!.. М-н-о-г-а! Жанчына-дзяўчына, ёй бы любіць, раджаць дзетак, гадаваць іх!.. Але вайна стала яе прафесіяй!.. І яна, у канцы, забіла с-я-б-е!.. Страляла, выходзіць, у ворага, а папала ў с-я-б-е!.. Трагедыя, на грэчаскі матыў-спосаб! Хто яе забярэ адсюль, разам з мёртвай Любоўю? Яна ж не даўняя Плеяда з сёстрамі, якіх разам з Арыёнам Зеўс перанёс сярод зорак на неба, дзе яны разам маюць і сёння свае канстэляцыі!.. Дзяўчына з-а-б-і-л-а ж-ы-ц-ц-ё! Я-к ё-й ж-ы-ць з Гэтым?.. Рэвалюцыя-вайна — забівае ж-ы-ц-ц-ё!.. Усё гэта — без сэнсу! Ніякія ідэалы не апраўдваюць смерць! Ідэалы т-а-д-ы самі ў-м-і-р-а-ю-ц-ь!..

Жыць — ж-ы-ць! К-а-х-а-ць! Не знаць слёз! — Даніэль з-н-я-л-а світар... Яны... п-о-т-ы-м... гаварылі, гаварылі, гаварылі!.. В-і-т-а-л-і с-о-н-ц-а!.. Р-а-д-а-с-н-ы-я!.. Але маўклівыя... Аляві расказаў пра свой смутак расставання... J'en suis an desespoir!.. Даніэль толькі сказала: — Смутна! І мне! Вельмі, Аляві! C'est tres triste!

— Пацалуй мяне, м-о-ц-н-а!.. Ай-Ляў-Ю, je n'existe pas, б-е-з ц-я-б-е?.. Не жыць мне!..

* * *

Ад'язджаючых на Santa Lucia было многа, хто ў Рым, хто ў Мілан, хто ў Парыж. Даніэль, вярнуўшыся ў палац-гатэль, выспаўшыся («начнікоў», падобных ёй, аказалася там некалькі, вось вам і ключы, і кольцы!), рашыла тут жа адпраўляцца ў Парыж, бо што самой тут рабіць? Ц-я-п-е-р, калі Аляві не будзе (а як ён спаў, Божа! Праўда ж, у яго сябры тут пастаянна жывуць!); а калі ён едзе? Хацеў у Рым — дзесь тут жа пасля дзвюх-трох гадзін!.. Мо пабачыцца? Але тады — НЕ ад'едуць!.. Не звоніць... Праўда, сказаў — «Даніэль, выспіся добра, пазваню пасля абеду, с-п-і!..».

Што за ноч была, Маці Божая!.. Як Табе дзякаваць, Неба, Госпадзе, за тое, што ёсць Л-ю-б-о-ў на свеце!.. Што прыйдзе, нахліне, абыме, запалоніць, свет засланіць — і ў р-а-й павядзе! Чужога дасюль чалавека т-а-б-о-й учыніць-сатварыць, а ты і-м с-т-а-н-е-ш, і ведаць ужо не будзеш д-з-е каторае з вас, вы будзеце т-у-т, разам, каб вы нават былі і адно ў Буэнас-Айрэсе — другое ва Уладзівастоку!.. Любоў, любоў, л-ю-б-о-ў! — што ты з людзьмі вырабляеш?..

Даніэль ледзь прабралася на пачатак свайго парыжскага экспрэса, тут яе месца... На другім баку перона, пры рымскім складзе (мо Аляві г-э-т-ы-м едзе? — але знайдзі пабач яго, у гэтым чалавечым моры!) голасна прашчаліся і тут людзі... Ён с-т-а-і-ц-ь, вон т-а-м! Царыца Прасвятая!.. Ёсць час! Яна пайшла-паляцела! Што-што-ш-т-о? — там гавораць па польску?!. Нене, гэта яна д-у-м-а-л-а п-а-п-о-л-ь-с-к-у! Яна сябе сама п-а-ч-у-л-а! Ішла, спяшала ж, п-а-п-о-л-ь-с-к-у! І ё-н г-а-в-а-р-ы-ў папольску! Усе т-а-м гаварылі па-польску!.. Ну, ё-н ж-а г-э-т-а! Яе к-а-х-а-н-ы-я ДВА МЕТРЫ!.. Яго плечы! Ён НЕ бачыць яе!..




Даніэль кранула руку Аляві, пастукала ў плячо, узяла за валасы... — Panie Olavi, dzień dobry panu! — яна закрычала ад радасці!.. Ён павярнуўся, з-а-с-т-ы-ў!.. Кінуўся яе ц-а-л-а-в-а-ц-ь!.. Сябрам крычаў: — Г-л-я-н-ь-ц-е, — пачаў па-французску, — no nie, patrzcie, to moja Danielle, to ona!.. Matko Boska, Ty moja!.. A cóż to, a jak to... Danielle, jak powiedziałaś? Ty? Czemu ty więc? Czemu my o-b-o-je?, po francusku? Boże! Danielle — czy to teraz ważne?.. Gwiżdżą, p-o-c-i-ą-g! Danielle — k-o-c-h-a-m cię, po polsku, po francusku! Za chwilę zadzwonię, z-a-r-a-z, j-u-ż!.. Do zobaczenia, n-a-j-d-r-o-ż-s-z-a! C-a-ł-u-j-ę!..

Яго дружкі паздаровaліся з Даніэль.. Ад'язджаў ужо яе парыжскі экспрэс... Трэба ж гэтак, по polsku!.. А яна пра «свой Парыж» заявіла!.. Ну, вось, хто пачаў «круціць»?.. Н-а-к-р-у-ц-і-л-і — надымелі, так сказаць, радуйцеся, не маглі па-чалавечаму!.. Ды Аляві пачаў, загаварыў па-французску, як было ёй адказаць, калі і яна зараз уляцела са «сваім Парыжам»! Але каб польскае слова не выскачыла? Не-не, было нешта, Даніэль тады пра брудэршафт загаварыла, ёй пачулася быццам «Boże, umrę ze szczęścia!», але яна — ганячы сябе за сваю смеласць падумала: «во, ужо я і сама з сабой гавару, ну — дзеўка-казак-смяльчак!..».

Santa Lucia асталася там, г-э-н... Адазваўся тэлефон Аляві: — To ja, kochanie, słuchaj!.. — Nie, to ja, miły, to ja tysiąc razy jestem winna, wyskoczyłam z Paryżem, ale zaiste — Paryż j-e-s-t mój, jadę do dziadków, mój warszawski tata to Francuz!.. — Danielle, całuje cię mocno, właśnie goręcej jeszcze, jestem najszczęśliwszy, bo będziesz obok!.. Jam z Gdańska, tam mój tata kapitan, onże i Fin, najprawdziwszy, i mama pianistka, Polka!.. — Olavi, wracam do Warszawy za tydzień!.. Słuchaj, pytałeś o Prawosławie, szukaj mnie w soborze na chórze, d-z-w-o-ń!.. — Będę dzwonił tysiąc razy, Danielle! Boże, nie zasługuję na t-a-k-i-e p-o-l-s-k-i-e szczęście!.. Wracaj szczęśliwie, miłuje cię, mój ty archeologu!.. Znów zadzwonię!.. Tysiąc razy!...

* * *

— Данусь, ты дзе? Калі вяртаешся? Тут Элька; уначы прыляцела?.. Слухай, учора, перад саборам падышоў да нас нейкі архангел-вырвідуб, з доўгімі-доўгімі валасамі і рукамі, Шапэн якісь, відна, ды ўсё пра цябе распытваў, ну — тут яна, сказалі мы, а ён кінуўся да мяне, абняў-пацалаваў!.. Хто ён табе? Сказаў — фін! Ты дзе была — у Хельсінкі (і чаму ён, фін, па-польску не горш нашага з табой лапоча?..) Хто ён табе, краса гэта, мне кроў затрымалася-стала!.. Каб не мой Казік — прашчай твой фін!.. Ён сказаў — заўтра ў царкве будзе... Ты ўжо ведаеш? Ужо званіў?..

Пастукала бабка Валерця... — Ой, Данусь, кветачка наша — ся вярнула!.. І квітнеш цала, спаткалася, значыць!.. Які ён — па табе бачу! Цала ся іскрыш!.. Бо каралевіч твой на коню белым!.. Бо, Данусь, Пан Буг даець нам добраць не заўша калі мы хочам, але ўтэды кеды Ён ве, жэ тшэба нам даць яе, на патрэбу нашу важну, бо бэз яе ўмрэм, а не на забаўку!..

— Дзінькую табе, цурусь, за Карольця, устаткoвала ты нам справу, доньцю; мы паедзем — Карольцё, Зоха і я — да Друскенік, што за Гроднам, а там і Вільна маё адведзім, мы на курорты, на солі, на зьрудла там-ся ўдаем, едзем!..

— А твой хлопец — пэўна кветка да кветкі?.. Як магло быць у цябе, анёла такога, іначай? Ён хто? Фін польскі? Вось — бачыш, як татуньцё твой, француз, за Софіяй сваёй, маман тваею, над Віслу да Варшавы ся перабраў, пераехаў з Парыжа свайго цуднага!.. От, цо міласць вычыняець з людзьмі, дзетка ты мая, квятушку наш вонны!.. Ну, пэўна, Гданьск і Хельсінкі тэраз да Варшавы з'едуцца!.. «Многая лета» хай твой хор саборны заспяваець!... Пазволіш — і я на свадзьбу на цябе ся выбёрупад'еду, мая ты сасанка пшэсьлічна!..

Даніэль спяшалася на Службу ў сабор... — Бяжы, донька, і мы з таткам зараз будзем!.. Перапрошвай хлопца, што пра Парыж нагаварыла! Гэтак і сэрца астанавіцца можа!.. Бач, і ў іх гісторыя закруцілася — тата хельсінскі, мама — гданьшчанка; я, вось, варшавянка, татка наш, Жэрар — парыжанін, дый вы, з Аляві, абое рознамястовыя, такі час!.. Так Бог нас мяркуе, калі мае быць л-ю-б-о-ў!..

* * *

Калі Аляві ўвайшоў у сабор, Даніэль ксалірвала «Благослови душе моя Господа», цудадзейную медодыю Стася Главацкага, варшавяка... Ай-Ляў-Ю п-а-з-н-а-ў яе голас! Яна ж на Лідо спявала яму «Sous la ciel de Paris» і „Plus blue que tes yeaux», пра неба парыжскае і вочы сінія-блакітныя, лазурныя... Яго вочы!..

«Благослови душе» — за тое, што я спаткала Аляві!.. «И вся внутренняя моя» — душа мая, сэрца, я ў-с-я дзякую Табе, Госпадзе, за дні цудоўныя, за шчасце маё!.. «Исполняющего во благих желание твое»; обновится яко орля юность моя» — дзякуй, Спасе, за тое — спявала, малілася Даніэль, за сябе і Аляві — што Ты бласлявіў маладосць нашу, каханне паслаў-даў і любоў сардэчную!.. «Венчающаго мя милостию и щедротами»... Венчающаго! Благаславі, У-л-а-д-ы-к-а!..

...Аляві, шчаслівы і радасны Ай-Ляў-Ю пабег наверх, на хоры, па вінтавой лесвіцы... Насустрач неслася Даніэль, я-г-о Д-а-н-і-э-л-ь!.. Яны прыпалі да сябе, абняліся, цалаваліся!.. Якія ж яны былі радасныя, гэтая райская пара! Даніэль у сукенцы белай — хоць пад вянец! — ц-я-п-е-р! — Аляві ў святочным касцюме!.. Яны былі яшчэ прыгажэйшымі чым у Венецыі!.. Бо ведалі — я-н-ы — ш-ч-а-с-л-і-в-ы-я!..

Яны ўвайшлі ў храм... Падышлі ба бацькоў, таксама ш-ч-а-с-л-і-в-ы-х!.. Аляві пацалаваў іх рукі!.. Цераз хвіліну, бачачы іх вочы-пытанне: дзе т-в-а-е? — падвёў да іх сваіх гданьшчан — маму Хрысціну і тату Пятра...

* * *

— «О еже благословитися браку сему, якоже в Кане Галилейстей, Господу помолимся»...

— «О рабех Божиих, Оляви и Даниэль, ныне сочетавающихся друг другу в брака общение, и о спасении их, Господу помолимся»......

* * *

— «Положил еси на главах их венцы, от каменей честных, живота просиша у Тебе, и дал еси им»...

— «Яко даси им благословение в век века, возвеселиши я радостию с лицем Твоим»...

ISSN 0546-1960